ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (77) жнівень 2017 год
CATHOLICNEWS.BY

# Біскуп Алег Буткевіч у Браславе прысвяціў Віцебскую дыяцэзію Маці Божай Валадарцы азёраў

Стар. 3

## У Чашніках адбыўся парафіяльны фэст


Стар. 8

## Фотафакт.
### Марозіва ад біскупа Алега Буткевіча для пілігрымаў з Глыбокага



У спякотны дзень пілігрымаў з Глыбокага, якія крочылі трэці і апошні дзень у Браслаў, чакала прыемная сустрэча з біскупам Алегам Буткевічам і... скрыня халоднага марозіва, якую ён для іх падрыхтаваў.

## У Германавічах адзначылі 230-гадовы юбілей касцёла


Стар. 6

# Папа Францішак ахвяраваў грошы на барацьбу з голадам у Афрыцы

**Папа Францішак зрабіў грашовае ахвяраванне харчовай і сельскагаспадарчай структурам ААН, каб дапамагчы насельніцтву Усходняй Афрыкі, што пакутуе ад голаду і несправядлівага размеркавання прадуктаў, паведамляе Ватыканскае радыё.**


©AP

"Гэта сімвалічны ўнёсак у праграму ФАО па забеспячэнні насельнем вясковых сем'яў, якія жывуць у рэгіёнах, дзе накладваюцца адно на адно вынікі канфліктаў і засухі", – патлумачыў Святы Айцец.

Ва Усходняй Афрыцы каля 22 мільёнаў чалавек пакутуюць праз голад. Цяжкая сітуацыя назіраецца ў Паўднёвым Судане, дзе "каля 6 мільёнаў жыхароў краіны штодня змагаецца за пошук дастатковай колькасці ежы", нагадала харчовая і сельскагаспадарчая структура ААН у адмысловым паведамленні. Колькасць асобаў, якія патрабуюць гуманітарнай дапамогі ў пяці іншых краінах Усходняй Афрыкі – Самалі, Эфіопіі, Кеніі, Танзаніі і Угандзе, – дасягае 16 мільёнаў. З канца 2016 года гэтая лічба ўзрасла амаль на 30%, гаворыцца ў справаздачы арганізацыі.

16 кастрычніка 2017 года, у Сусветны дзень харчавання, Папа Францішак наведае штаб-кватэру ФАО і прыме ўдзел у мерапрыемствах, прымеркаваных да гэтай даты. Сёлета падзея будзе адзначацца пад дэвізам "Змяніць будучыню міграцыі. Інвеставаць у харчовую бяспеку і ў сельскае развіццё".

Пра сваё жаданне далучыцца да гуманітарнай дзейнасці харчовай і сельскагаспадарчай структуры ААН у афрыканскім рэгіёне Пантыфік аб'явіў у пачатку ліпеня ў сваім прывітальным звароце на адкрыцці 40-й сесіі агульнай канферэнцыі ФАО. Рашэнне пералічыць пэўную суму грошай на падтрымку сельскагаспадарчага сектара Паўднёвага Судана "з'яўляецца дадаткам да працы, якую ажыццяўляе Каталіцкі Касцёл згодна са сваім пакліканнем быць побач з беднымі гэтай зямлі і суправаджаць плённыя намаганні людзей на іх карысць", падкрэсліў Папа Францішак.

# Ва Ушачах у гонар святога Лаўрэна біскуп Алег Буткевіч асвяціў хлеб і мёд



**Адпустовая святая Імша адбылася 10 жніўня. На ўрачыстасць ва Ушачы прыбыў віцебскі ардынарый біскуп Алег Буткевіч, які і ўзначаліў святую Імшу.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Вернікі сустрэлі свайго пастыра перад уваходам у храм з хлебным караваем і кветкамі.

На свяце прысутнічалі святары з розных куткоў Віцебскай дыяцэзіі. Гэта ксёндз Раман Мурзіч з Параф'янава, ксёндз Мікалай Ціхановіч з Глыбокага, ксёндз Аляксандр Півавар з Бешанковіч, ксёндз Мікалай Ліпскі з Новалукомля, ксёндз Дзмітрый Рацько з Празарок, ксёндз Аляксей Асон з Новага Пагоста. Шмат хто з гэтых святароў нейкі час служыў тут, у парафіі святога Лаўрэна, а ксёндз Мікалай Ліпскі 10 гадоў таму прыняў тут святарскае пасвячэнне.

На пачатку Імшы пробашч парафіі кс. Віталь Галец падзякаваў усім гасцям і папрасіў іерарха ўзначаліць набажэнства.

У сваім слове да вернікаў біскуп адзначыў, што святы Лаўрэн мае для Ушачаў асаблівае значэнне. Ён першы, хто сустракае гасцей горада, бо яго выява знаходзіцца не толькі ў галоўным алтары касцёла, але і на гербе горада. Для нас, людзей трэцяга тысячагоддзя, жыццё святога, які жыў амаль дзве тысячы гадоў таму, можа быць прыкладам мужнасці, адвагі, непахіснай веры. І гэта для нас вельмі важна, бо такія прыклады патрэбныя, каб заставацца адданымі сваёй веры.

Іерарх коратка нагадаў гісторыю жыцця святога, які быў дыяканам пры Папу Сіксту ІІ. Падчас ганенняў на хрысціянаў пры імператару Валяр'яну ў 258 годзе многія святары і біскупы былі пакараныя, а хрысціяне-сенатары ці чальцы багатых сямействаў пазбаўляліся маёмасці і выганяліся з горада. Папа Сікст ІІ быў адной з першых ахвяр гэтых праследаў: яго абезгаловілі 6 жніўня. Згодна з легендай, Лаўрэн сустрэў Сікста, якога вялі на пакаранне, і спытаў у яго: "Куды ты, ойча, ідзеш? Навошта пакідаеш свайго арцыдыякана, з якім заўсёды прыносіў бяскроўную Ахвяру? Вазьмі свайго сына з сабой, каб і я быў саўдзельнікам у праліцці крыві за Хрыста!" Святы Сікст адказваў яму: "Не пакідаю цябе, сын мой. Я стары і іду на лёгкую смерць, а цябе чакаюць больш цяжкія пакуты. Ведай, што праз тры дні пасля маёй смерці і ты пойдзеш за мной. А цяпер ідзі, прадай царкоўныя скарбы і раздай бедным хрысціянам".

Пасля пакарання смерцю Сікста Лаўрэн быў кінуты ў турму. Неўзабаве рымскі прэфект запатрабаваў у яго аддаць дзяржаве скарбы Касцёла. Папрасіўшы тры дні тэрміну, арцыдыякан раздаў амаль усю царкоўную маёмасць беднякам. На трэці дзень ён з'явіўся да прэфекта разам з натоўпам жабракоў, калек, сляпых і хворых, заявіўшы: "Вось сапраўдныя скарбы Касцёла". За гэтыя словы Лаўрэна падверглі катаванням і жывога засмажалі на жалезнай рашотцы: пад яе падклалі гарачыя вуглі, а слугі рагацінамі прыціскалі да рашоткі ягонае цела. Паводле падання, у час пакарання Лаўрэн сказаў сваім катам: "Вось вы спяклі адзін бок, павярніце на іншы і ешце маё цела!"

Біскуп Алег заклікаў прысутных браць прыклад са святога Лаўрэна ў служэнні Богу і людзям. Ён нагадаў пра запаведзь любові, якая заклікае любіць Бога і бліжняга. Таксама іерарх звярнуў увагу на тое, што калі мы хочам перамяніць свайго бліжняга, то ў першую чаргу павінны змяніцца самі. Мы павінны памятаць, што прызначаныя для вечнага жыцця, і гэта вера не павінна выклікаць у нас сумневу.

Напрыканцы Імшы да біскупа, святароў і вернікаў звярнуліся прадстаўнікі мясцовай улады, якія падзякавалі высокаму госцю за прысутнасць ва Ушачах, а таксама коратка нагадалі пра ролю святога ў гісторыі Ушачаў, выява якога знаходзіцца на гербе мястэчка. Гэты герб Ушачы маюць ад XVIII стагоддзя, тады ж, у 1758 годзе, мястэчка атрымала магдэбургскае правы.

Пасля біскупскага бласлаўлення адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Святары і вернікі памаліліся літаніяй да святога Лаўрэна. Скончылася набажэнства спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем".

А потым біскуп асвяціў хлебныя караваі і мёд, што стала ўжо традыцыйным ва ўшацкай парафіі з моманту яе адраджэння. Пакаштаваць прысмакі можна было адразу тут, на ўваходзе ў храм, а ўсе ахвотныя маглі паразмаўляць з біскупам, які заўсёды адкрыты на дыялог з людзьмі.

Дарэчы, святы Лаўрэн, імя якога носіць ушацкая парафія, лічыцца апекуном бедных, а таксама нябесным заступнікам пажарных, пчаляроў і хлебапёкаў.

# Біскуп Алег Буткевіч у Браславе прысвяціў Віцебскую дыяцэзію Маці Божай Валадарцы азёраў

**Урачыстасці ў Браславе, што прайшлі 18-19 жніўня, як і штогод, былі вельмі насычанымі малітвай. Распачалося святкаванне вечаровай Імшой у пятніцу, 18 жніўня, разам з пілігрымамі, якія пешшу і на роварах прыбылі ў санктуарый.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*



Узначаліў Эўхарыстыю дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. Падчас Літургіі быў удзелены сакрамант канфірмацыі.

На працягу вечара і ўсёй ночы трывала малітва ў касцёле. Разам з а. Аляксандрам Жарнасекам МІС вернікі славілі Госпада ў Найсвяцейшым Сакраманце падчас малітвы праслаўлення. Грэка-каталіцкі хор співаў акафіст да Найсвяцейшай Багародзіцы.

А 23.30 распачалася ўрачыстая працэсія з малітвай на ружанцы па вуліцах горада з абразом Маці Божай Валадаркі азёраў. Па вяртанні апоўначы св. Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB.

Ранішнюю Эўхарыстую ў інтэнцыі падзякі святароўураджэнцаў Браслаўшчыны цэлебраваў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Галоўную Імшу 19 жніўня на палявым алтары ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр. Імшу канцэлебравалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, часовы паверaны ў справах Апостальскай нунцыятуры ў Рэспубліцы Чад ксёндз Аляксандр Рагіня, галоўны рэдактар беларускай секцыі Ватыканскага радыё ксёндз Аляксандр Амяльчэня, а таксама шматлікія святары Віцебскай дыяцэзіі. На Імшы прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу ў Рэспубліцы Беларусь, мясцовай і абласной улады. Прысутнічаў на ўрачыстасці і старшыня аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцей Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта Міхаіл Раманавіч Даніленка.

На самым пачатку словы прывітання да ўсіх прысутных скіраваў пробашч парафіі кс. Станіслаў Мжыглуд. Кусташ санктуарыя прывітаў усіх пілігрымаў, якія пешшу і на роварах прыбылі ў Браслаў, а таксама ўсіх вернікаў з Беларусі і з-за мяжы і запрасіў да супольнай малітвы.

"У 100-ю гадавіну фацімскіх аб'яўленняў мы збіраемся тут, ля алтара Найсвяцейшай Панны Марыі Валадаркі азёраў, каб праслаўляць Бога за тое, што не пакідае сваіх дзяцей і праз Яе апеку няспынна прытуляе да Свайго сэрца", – прамовіў біскуп Алег Буткевіч. Іерарх падзякаваў Апостальскаму нунцыю за прысутнасць і нагадаў вернікам, што для прадстаўніка Святога Айца ў нашай краіне сёння знамянальны дзень, бо ўчора была першая гадавіна яго знаходжання на гэтай адказнай пасадзе. "Сёння, распачынаючы другі год, Вы разам з намі. Жадаем адчуць не толькі прыгажосць гэтай зямлі, але і прыгажосць нашых сэрцаў, якія туляцца да Маці Божай, шукаючы ў Яе падтрымкі і дапамогі", – сказаў віцебскі ардынарый.

Арцыбіскуп Габар Пінтэр у сваю чаргу падзякаваў Богу за магчымасць упершыню наведаць браслаўскі санктуарый і яшчэ раз паразважаць над значэннем аб'яўленняў Панны Марыі ў Фаціме. "Гледзячы на вас, хто сабраўся ў гэтым месцы, каб аддаць пашану нашай Нябеснай Маці, маё сэрца напаўняе радасць і надзея, таму што я магу быць сведкам таго, як на маіх вачах рэалізуецца дэвіз гэтай урачыстасці: "Фацімскі заклік Марыі – новы шанец для сучаснага свету. Дзякую вам, што пажадалі скарыстацца гэтым шанцам, пакінуўшы дамы і штодзённыя клопаты, – падкрэсліў нунцый і заахвоціў: – Як прадстаўнік Святога Айца я заклікаю вас перажыць ахвяру гэтай Эўхарыстыі ў духоўнай лучнасці з Пантыфікам і ўсім Касцёлам".

У гэты ж дзень біскуп Алег Буткевіч аддаў у апеку ўсю Віцебскую дыяцэзію Маці Божай Валадарцы азёраў, прачытаўшы Акт прысвячэння.

На заканчэнне ўрачыстай Імшы Апостальскі нунцый Габар Пінтэр прызнаўся, што вельмі ўражаны сённяшнім прыгожым святам. Арцыбіскуп падзякаваў за прыгожы вопыт у сваім жыцці, калі змог убачыць глыбокую веру, глыбіню людскіх адносін з Богам. «Ад імя Святога Айца хачу падзякаваць вам за прыгожую традыцыю, якую вы распачалі пасля трагічнага перыяду атэістычнай ідэалогіі. Спадзяюся, што гэта традыцыя ў браслаўскім санктуарыі будзе працягвацца вякамі", – прамовіў іерарх.

Пасля бласлаўлення віцебскі біскуп асаблівым чынам узгадаў тых святароў нашай дыяцэзіі, якія ў мінулым і ў гэтым годзе адзначалі свой юбілей: 20, 25, 30, 35 і 40 гадоў святарства. Ардынарый падзякаваў Богу за шматлікія Божыя ласкі, якія мы атрымліваем праз дар святарства, што пакінуў нам Езус. Гэтым святарам Апостальскі нунцый у Беларусі ўручыў памятны знак з пажаданнямі і бласлаўленнем біскупа Алега Буткевіча.

Памяткамі ўзнагароджаны: 20 гадоў святарства – кс. Яцэк Хутман і кс. канонік катэдральнай капітулы Аляксандр Чайкоўскі; 25 гадоў – кс. Андрэй Бочар; 30 гадоў – а. Тадэвуш Кавальскі; кс. канонік катэдральнай капітулы Эдвард Ахрамовіч; кс. пралат і канонік катэдральнай капітулы Кшыштаф Мянкіна; генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі кс. пралат і канонік катэдральнай капітулы Францішак Кісель; 35 гадоў – кс. Кшыштаф Сілкоўскі; 40 гадоў – а. Станіслаў Памыкала SJ.

Словы прывітання да прысутных скіраваў старшыня аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцей Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта Міхаіл Даніленка: "Абраз Маці Божай Валадаркі Азёраў – гэта адзін з сямі каранаваных абразоў у Беларусі. Гэты момант мае высокі духоўны сэнс. Штогод ўрачыстая дата збірае тысячы пілігрымаў і турыстаў, якія глыбока вераць, а таксама і тых, хто ідзе да веры. Зараз мы ясней усведамляем, што перад намі стаіць нялёгкая задача: адраджэнне духоўнага жыцця народа. Наша грамадства паступова вяртаецца да хрысціянскіх і маральных нормаў, пра што казаў нунцый. У дзяржавы і касцёла – адна агульная мэта: дапамагчы людзям стаць чысцейшымі і лепшымі, любіць сваё грамадства і дзяржаву і быць адданым ім!"



## У Польшчы маладая жанчына аддала жыццё за сваё дзіця

**25-гадовая Ева Пшыбыла з малапольскіх Дамінікавіц аддала сваё жыццё за жыццё свайго дзіцяці.**

Хворая на рак маладая жанчына адмовілася ад прамянёвай тэрапіі. Яе сын нарадзіўся 24 красавіка. Яна памерла 8 жніўня, паведамляе dts24.pl.

Рак мозгу чацвёртай ступені – такі дыягназ яна пачула ў снежні 2016 года. Адзіны эфектыўны сродак у гэтай сітуацыі – прамянёвая тэрапія галавы і хрыбетніка. Але 16-тыднёвы сын пад яе сэрцам тады не меў бы шанцаў на выжыванне. Ева вырашыла пачакаць з лячэннем, пакуль Рагнар не з'явіцца на свет. Хлопчык нарадзіўся 24 красавіка ў шпіталі ў Германіі.

– З вялікім гонарам паведамляю, што ўчора (24.04.2017) а 14.34 на свет прыйшоў да нас жаданы сын! 1480 грам чыстага кахання і шчасця, якое цяжка апісаць словамі, – напісала Ева ў Facebook.

Жанчына выйграла жыццё сына, але прайграла сваё ў барацьбе з хваробай.

# Ліст да семінарыста

**Аднойчы я была сведкай размовы дзвюх знаёмых мне жанчын. Адна з іх казала пра хлопца, які збіраўся стаць святаром: "Шкада мне яго! І маці яго асабліва. Ні сына не будзе, ні ўнукаў". І я задумалася тады – спачатку пра сына, пра маці крыху пазней.**

**Аксана Нядвецкая**



На маім шляху сустракаліся розныя святары – маладыя, сярэдняга ўзросту і зусім старэнькія, актыўныя і спакойныя, абаяльныя і не зусім, цікавыя суразмоўцы і замкнёныя на сабе, вельмі разумныя, вясёлыя і проста добрыя (іх я люблю больш за ўсіх). І выклікалі яны розныя пачуцці: павагі і ўдзячнасці (заўсёды), захаплення, разумення або неразумення, некаторыя здзіўлялі, цікавілі, заахвочвалі ісці наперад, ламалі стэрэатыпы або ўражвалі сваёй кансерватыўнасцю, але жалю не выклікалі ніколі.

Напісаць гэты артыкул мяне "папрасілі" некалькі выпадкаў, якія адбыліся зусім нядаўна адзін за адным (іх я вырашыла не прыводзіць, аднак адбіткі гэтых выпадкаў добра бачныя ў тэксце). І некалькі дэталяў уразілі мяне настолькі, што я проста не магла гэтага не напісаць.

Калісьці, гады тры таму назад, я брала на сябе дадатковы абавязак і амаль цэлы год штодзённа малілася пра пакліканні. Малілася я добра, таму веру, што Пан Бог выслухаў маю малітву і прыцягнуў хаця б адну "палымяную, высакародную душу" маладога чалавека, які зараз, па маіх падліках, знаходзіцца на малодшых курсах семінарыі. Вось яму, таму семінарысту, якога я вымаліла сабе на старасць, будучаму будаўніку Містычнага Цела Хрыстовага, які хутка стане "соллю зямлі і святлом свету" (Папа Павел VI, які склаў малітву аб пакліканнях, быў яшчэ і паэтам, напэўна) адрасую гэты ліст.

Пан Бог добра ведае свайго просьбіта, таму не мог паслаць мне рашучага семінарыста, які вірлівым патокам накіроўваецца да акіяна, а паслаў, хутчэй, ручаінку, крынічку, што не ведае, якім шляхам несці свае воды, і сумняваецца, ці патрэбныя ўвогуле яе рэсурсы акіяну. Інакш кажучы, мой семінарыст дакладна зараз думае, што ён не справіцца, што ў іншых атрымаецца лепш, хто заўгодна, толькі не ён, і г.д. А я адчуваю сваю адказнасць за гэтае пакліканне (у 2014 годзе неяк асабліва шчыра малілася) і ма́ю асабістую зацікаўленасць у гэтым канкрэтным семінарысце, таму вырашыла напісаць гэты ліст, каб звярнуцца да яго пасяброўску. Тэкст, магчыма, атрымаўся занадта "свецкім" і вельмі "жаночым", але, я думаю, абодва гэтыя недахопы мне можна прабачыць.

*Прывітанне, дарагі сябра!*

*Вырашыла напісаць табе, бо адчуваю, што ты знаходзішся цяпер у складанай сітуацыі. Ты не ведаеш мяне, я не ведаю цябе, але нічога не перашкаджае нам пазнаёміцца проста зараз.*

*Спачатку хачу падзякаваць табе, што адказаў на Божае пакліканне і зрабіў крок насустрач Яму. Я не ведаю, атрымаецца ў цябе ісці гэтым цяжкім шляхам ці не, але ўжо само такое рашэнне выклікае павагу.*

*Мяне заўсёды ўражвалі людзі, якія маглі браць на сябе адказнасць за свой выбар і рабіць гэты выбар у раннім узросце – адзін раз і на ўсё жыццё. І шматлікія ваганні, звязаныя з такім выбарам, толькі пацвярджаюць адказнасць чалавека і сур'ёзнасць яго намераў.*

*Духоўныя айцы з семінарыі, напэўна, дадуць табе карысныя парады, скажуць шчырыя і правільныя словы, я ж, магчыма, скажу няправільныя, але таксама шчырыя і ад усяго сэрца, і на тваім месцы паслухала б і іх.*

*Табе зараз гадоў дваццаць (дакладная лічба не мае значэння, мой адрасат – малады чалавек, без жыццёвага вопыту, але з вострымі пачуццямі і выразным жаданнем змяніць свет), праз некаторы час трэба будзе вызначыцца канчаткова і зрабіць той самы выбар – адзін раз і на ўсё жыццё. І нават калі выбар твой будзе на карысць святарства, то праз пяць, дзесяць, пятнаццаць гадоў ты сам зменішся і будзеш ужо не тым чалавекам, які калісьці сказаў Пану Богу: "Так! Я з табой!" Тое, што цяпер не з'яўляецца самым важным, можа стаць неабходным. Пачуцці прытупяцца, жаданне змяніць свет падасца дзіцячым і нездзяйсняльным, і нават любоў да Хрыста, якая зараз здаецца табе абсалютнай, будзе выклікаць сумненні.*

*Я б не баялася гэтага. І думаю, што будзе, хутчэй, так, чым па-іншаму. Я, дарэчы, таксама чалавек, які ў тваім узросце зрабіў выбар на ўсё жыццё. І мне ісці сваім шляхам дапамагае вобраз лесвіцы Марціна Лютэра Кінга: каб зрабіць першы крок, не трэба бачыць лесвіцу цалкам, дастаткова верыць і бачыць першую прыступку. Для мяне нечакана, незразумела і цяжка аказалася ўжо на другой прыступцы, аднак сумненняў у выбары лесвіцы і ў яе канчатковай мэце пакуль не было. Але зараз мы размаўляем пра цябе, а не пра мяне.*

*Мае знаёмыя (католікі, некатолікі і атэісты) часта спрабуюць даказаць мне, што нашы святары самі не жывуць так, як патрабуюць ад нас, або ўвогуле сцвярджаюць немагчымасць правільнага жыцця святара з усімі яго забаронамі і абетамі. Я, вядома, адказваю, што патрабуе ад мяне Пан Бог, а не канкрэтны святар, і дадаю звычайна: "Вашыя думкі наконт магчымасцяў або немагчымасці жыцця ў чысціні ідуць з таго, што вы добра ведаеце сябе і свае магчымасці і не ведаеце магчымасцяў чалавека ў супрацоўніцтве з Панам Богам". Аднак я доўга не спрачаюся. Гэта для цябе я так стараюся, падбіраю словы, думаю і перапісваю нанова, з маімі знаёмымі хутка пераходзім на размову пра надвор'е і адключэнне гарачай вады.*

*Але ёсць пытанні наконт цябе, якія сапраўды хвалююць мяне.*

*Твае равеснікі зараз вучацца на менеджараў, эканамістаў, бізнес-аналітыкаў, інжынераў і праграмістаў, а ты пайшоў на пастыра, адмовіш сабе ў шматлікіх радасцях жыцця, будзеш хадзіць у сутане, у пышным уборы калі-нікалі, пакланяцца белай пласцінцы хлеба і заклікаць, каб астатнія сучасныя людзі з цвярозым розумам таксама ёй пакланяліся (гэта не мае словы, так звычайна выказваюцца мае знаёмыя, і твае, я думаю). Ці не будзе табе крыўдна слухаць падобнае на свой адрас? І што будзе, калі раптам сам пачнеш так думаць?*

*Што будзе, калі праз некаторы час ты зразумееш, што памыліўся, што быць святаром – гэта не твой шлях, не тваё пакліканне? Што будзе, калі замест паважлівага "айцец" нечакана захочацца пачуць звычайнае чалавечае "тата"? І што будзе, калі гэта здарыцца занадта позна?*

*Ці будзеш памятаць першую споведзь, прынятую табой? Што будзе, калі спачатку менавіта спавядаць людзей будзе для цябе самым цяжкім і чужыя грахі будуць непакоіць цябе, а думкі пра іх не дадуць спакойна засынаць і прачынацца? І што будзе, калі гэта раптам увогуле перастане кранаць цябе? Якое яно, выгаранне святароў?*

*Ці не будзеш ты адзінокім?*

*Калі станеш святаром, прыйдзеш у сваю першую парафію поўны сіл і энергіі, станеш рыхтаваць цікавыя казанні, да цябе прыхінецца моладзь, а жанчыны сярэдняга ўзросту будуць бачыць у табе сына і старацца дапамагчы, параіць, паспрыяць. Але прыйдзе час, казанні твае стануць доўгімі і занадта правільнымі, з моладдзю будзе працаваць другі святар, а жанчыны сярэдняга ўзросту будуць бачыць у табе бацькаў і, па магчымасці, хадзіць на Імшу да таго, хто поўны сіл і энергіі, рыхтуе цікавыя казанні і так нагадвае ім сына. Гэта будзе цяжка табе? Ці не будзеш ты тады яшчэ больш адзінокім? Хто дапаможа табе ў старасці?*

*І дзе межы тваёй упэўненасці ў сабе і твайго даверу да Пана Бога, калі будзеш рабіць свой самы важны выбар?*

*Я не буду нават спрабаваць адказваць на ўсе гэтыя пытанні (мы не будзем абмяркоўваць тваю лесвіцу, бо не ведаем, якой яна будзе, якія менавіта прыступкі запланаваў табе Пан Бог). Мы падумаем зараз, дзеля чаго варта яе пераадольваць і дзеля чаго яна такая, якая ёсць, такая патрабавальная лесвіца святара. Дзеля чаго Пан Бог пасяляе ў тваім сэрцы такое шчырае жаданне служыць Яму і людзям і не забірае іншыя натуральныя чалавечыя жаданні? Дзеля чаго Ён дае табе такія вялікія паўнамоцтвы – дзейнічаць ад імя і моцаю Хрыста – і не робіць цябе адразу дасканалым і святым?*

*У той перыяд, калі я шукала Бога і не ведала дакладна, якім шляхам ісці, дапамаглі мне знайсці Яго канкрэтныя святары, манахі, якія склалі Пану Богу абеты беднасці, цэлібату і паслухмянасці. І я б не паверыла тады, каб яны, тыя святары, аддавалі свайму Богу сябе часткова, з 8.00 да 17.00 па буднях з перапынкам на абед. Я б не паверыла тады, каб яны адмаўляліся дзеля Пана толькі ад ранішняй кавы і вячэрняй прабежкі. Яны адмовіліся ад усяго: ад кар'еры, ад права самім выбіраць, дзе жыць і як жыць, ад таго самага "тата" замест "айцец", ад спадарожніцы па жыцці і ад апоры з боку роднага чалавека ў старасці. Яны даверылі Пану Богу сваю недасканаласць, свае магчымыя хваробы, старасць сваіх бацькоў і сваю будучую старасць і пайшлі за Ім, куды Ён паклікаў. І вось гэта было тым элементам мазаікі, якога не хапала для паўнаты малюнка. Гэтае іх адмаўленне ад усяго зрабіла тады больш, чым самыя лепшыя казанні і самыя трапныя словы. Я бачыла, як звычайныя людзі, з плоці і крыві, са сваімі інтарэсамі, з багатым унутраным светам, вельмі разумныя, дарэчы, людзі аддаюць свайму Богу ўсё, што здавалася для мяне самым важным. Значыць, Ён сапраўды варты гэтага, падумала я тады. Ён не памёр дзесьці ў 1960-х, калі бралі шлюб мае бабуля і дзядуля, Ён жывы і моцны, і за Ім па-ранейшаму ідуць людзі.*

*Ведаю, у тваім узросце не любяць чытаць доўгіх лістоў, таму апошняя гісторыя ад мяне – і будзем развітвацца. Аднойчы выпадкова я прыйшла на Імшу ў адзін вясковы касцёл (не чужы для мяне, я даволі часта бывала там у дзяцінстве). Быў летні суботні вечар, апроч мяне ў касцёле знаходзілася сем чалавек, усе жанчыны старэйшага ўзросту і адна дзяўчына (адзін прадстаўнік моладзі ўсё ж такі быў). Я думаю, у гэтай вёсачцы Імша для такой колькасці вернікаў – звычайная справа, хоць у нядзелю, кажуць, людзей тут значна больш. Але не гэта галоўнае. Па-першае, я доўга не магла схаваць сваю радасць, што знаходжуся зараз у гэтым месцы, што тут па-ранейшаму дзейнічае касцёл і я, калі захачу, магу прыехаць у любы будні дзень а 19.00, і тут будзе Імша. Па-другое, мяне ўразіла, як ксёндз уважліва і акуратна адпраўляў Імшу. Я не пра тое, што астатнія святары неяк па-іншаму гэта робяць, я толькі пра тое, што гэты вясковы святар у гэтым маленькім касцёле для васьмі вернікаў цэлебраваў святую Імшу як адну-адзіную, самую важную, самую прыгожую і дасканалую частку служэння. Імша, дарэчы, была з казаннем. І, думаю, нават калі б я адна прысутнічала там, святар гэтак жа выразна і дэталёва распавядаў бы пра святога Бонавэнтуру так, што чалавеку, які сам шмат ведае і чытае пра святых, было б цікава і пазнавальна.*

*Дык вось, мой сябра-семінарыст, які вагаецца, сумняваецца і баіцца зрабіць важны выбар! Не бойся! Я думаю, што ў цябе ўсё атрымаецца, і атрымаецца менавіта ў цябе, а не ў таго, на каго ты зараз хочаш пераводзіць стрэлкі. У мяне не такі вялікі жыццёвы вопыт, але ён ёсць. І вопыт гэты падказвае, што калі Пан Бог чагосьці просіць ад чалавека, Яму не трэба адмаўляць. Яму трэба верыць і давяраць.*

P.S. У лісце я звяртаюся да маладога чалавека, які сумняваецца ў сваім выбары, аднак увесь артыкул і самыя лепшыя моўныя звароты (а яны тут ёсць, спадзяюся) прысвячаю тым Святарам, якія зрабілі свой адказны выбар у раннім узросце і не здрадзілі яму нягледзячы ні на што, тым Пастырам, быць авечкай каторых не толькі някрыўдна, але і прыемна.

# Ахвярнасць

**Падчас экскурсіі ў Навагрудак мяне вельмі ўразіў аповед пра 11 сясцёр з супольнасці "Найсвяцейшай сям'і з Назарэту", якіх фашысты замардавалі ў лесе каля Навагрудка.**

**Галіна Даўгашэй**

О! Колькі іх, людзей, якія ніколі не трымалі зброі ў руках, загінула ад рук фашыстаў, сталіністаў і іншых злачынцаў! Так сталася і з сёстрамі-назаратанкамі з Навагрудка. 1 жніўня 1943 года фашысты завезлі іх у лес за 5км ад Навагрудка і расстралялі.

Дванаццатая сястра выпадкова засталася жывой. Менавіта яна, Марыя Малгажата, знайшла парэшткі забітых, ініцыявала іх пахаванне каля касцёла і да самай смерці засталася аберагаць магілу сясцёр і касцёл, названы Белай Фарай.

Здаецца, і цяпер вершаліны дрэў у гэтым лесе шэпчуць, а вецер носіць трывожнае пытанне: "За што?" Можа, за тое, што яны, адкрытыя на людскія патрэбы ў мірныя дні, у часе вайны яшчэ больш адгукаліся на чужое гора? Можа, за тое, што стараліся суцешыць, паспачуваць і шчыра маліцца? А можа, за тое, што нацыянальнасць сясцёр не адпавядала плану фюрэра?

Цяпер ніхто дакладна не адкажа на гэтыя пытанні. Аднак вядома, што, калі фашысты арыштавалі больш за 120 чалавек (сярод якіх быў і пробашч парафіі) з мэтай знішчыць няшчасных, у касцёл прыходзілі сямейнікі арыштаваных з болем і роспачу. І самі, і цераз сясцёр, звярталіся да Усемагутнага Бога, просячы ласкі, дапамогі. Пакуты прыхаджан глыбока кранулі сясцёр. Адбылася праява найвялікшай любові да чалавека. Менавіта тады сёстры вырашылі ахвяраваць сваё жыццё за арыштаваных. Толькі такую дапамогу яны маглі аказаць людзям. Перад алтаром яны прасілі Бога, каб ён прыняў гэтую ахвяру.

І сапраўды, адбыліся змены. Арыштаваных выпусцілі, а сама-ахвярных сясцёр з "Найсвяцейшай сям'і з Назарэту" расстралялі.

Ім я прысвяціла наступныя радкі:

*Зноў памяць полымем гарыць,*
*Зноў сэрца захлынаецца ад болю,*
*І прах, што пад вялікім каменем ляжыць,*
*Хвалюе нас і стукае ў скроні.*

*Павага, ласка, дабрыня…*
*Іх паважалі, слухалі, любілі.*
*Ішла вайна, страшэнная вайна,*
*Люд катавалі, нішчылі, губілі.*

*І на каленях перад алтаром,*
*На раны Боскія яны ў слязах глядзелі*
*Ды гаварылі з Богам і Хрыстом,*
*Паменшыць гора для людзей хацелі.*

*"Наш Божа, зберажы бацькоў,*
*Касцёл наш зберажы, мы просім,*
*Вярні матулям дочак і сыноў,*
*За іх сваё жыццё ў ахвяру мы прыносім".*

*І згасла свечка іх жыцця*
*Прыгожага і мужнага, зямнога.*
*Іх чыстая душа пайшла*
*Да светлага жыцця, другога.*

*Здаецца, зоркамі яны на нас глядзяць,*
*Турбуюцца, за сем'і нашы просяць,*
*І сілы цёмныя спрабуюць адагнаць,*
*Малітву шчырую ізноў за нас заносяць.*

*Каб Бог збярог сям'ю ад лайдакоў,*
*Не шкадаваў здароўя ёй і хлеба,*
*Каб гадавалі дочак і сыноў*
*І благаслаўлялі лёс ім, калі трэба.*

*І мацярок, мой Божа, настаўляй,*
*Каб літасці дзяцей сваіх вучылі,*
*Любілі Беларускі родны край,*
*І каб бацькоў ніколі не забылі!*

Пахвалёны Езус Хрыстус!





# У маёй душы панавала ўдзячнасць Пану Богу

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

**Шмат гадоў я з'яўляюся шчырай чытачкай вашага выдання. З вялікай зацікаўленасцю знаёмлюся на старонках "Каталіцкага Весніка" з жыццём вернікаў іншых парафій і наогул з рэлігійным жыццём. Я таксама распаўсюджваю газету ў сваёй парафіі святых Пятра і Паўла ў Дрысвятах Браслаўскага раёна.**

**Леакадзія Енікава**

Хачу расказаць пра важную для нашага касцёла падзею, якая адбылася ў ліпені – візітацыю Віцебскага ардынарыя Алега Буткевіча. Да гэтай сустрэчы пробашч Генадзь Ляўкоў і парафіяне рыхтаваліся старанна: прыбіралі прыкасцельную тэрыторыю, упрыгожвалі касцёл, гатавалі вясковыя пачастункі, прадумвалі забаўляльную праграму.

Прыбыў у нашу парафію біскуп Алег 8 ліпеня. Спачатку ён наведаў капліцу ў вёсцы Дварышча. Раніцай 9 ліпеня іерарх наведаў капліцы ў вёсках Карасіна і Гірэйшы, а таксама мяжанскі касцёл. У гэты дзень з раніцы ішоў дождж, але ў хуткім часе на небе заззяла сонейка. Само надвор'е радавалася візітацыі біскупа Алега.

Прырода і касцёл у Дрысвятах вельмі прыгожыя. Святыня ўзвышаецца на гары, якая нібы ўразаецца ў азёрную роўнядзь з невялікімі астраўкамі-караблямі.

У промнях летняга сонца ўсё выглядала чароўна. Высокага госця мы сустрэлі ля брамы хлебам-соллю і запрасілі ў святыню. Перад пачаткам святой Імшы мясцовая краязнаўца Эмілія Шавэла азнаёміла прысутных з гісторыяй дрысвяцкай парафіі, якой ужо больш за 500 гадоў.

Святую імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч. Яго словы зразумелыя і простыя, яны нясуць праўду, набліжаюць чалавека да Бога, расплюшчваюць людзям вочы і адкрываюць вушы, даходзяць да сэрца. Супольная малітва, Божае слова з вуснаў пастыра, спеў – усё гэта вельмі кранала душу кожнага верніка! У канцы святой Імшы ксёндз Генадзь падзякаваў біскупу за супольную малітву і сардэчную сустрэчу.

Затым адбыўся канцэрт і пачастунак, на якім таксама прысутнічаў наш любімы біскуп Алег. Калі б у мяне спыталі, як вернікі нашай парафіі ставяцца да біскупа, я б адказала, што з вялікай любоўю і жаданнем больш частых сустрэч. Наш біскуп як сонейка – заўсёды з усмешкай на твары і добрымі вачыма. На працягу дзвюх гадзін парафіяне і госці слухалі песні ў выкананні народнага фальклорнага гурта "Вярба" *(на здымку)* і частаваліся. Пастыр памаліўся над пачастункам, запрасіў да стала і сам пакаштаваў нашых вясковых прысмакаў. У маёй душы панавала ўдзячнасць Пану Богу, што ў даволі сталым ужо ўзросце я стала сведкай візітацыі біскупа Алега Буткевіча ў нашу парафію. Жадаю яму Божай ласкі і апекі ва ўсіх яго справах! Хай збываюцца ўсе яго планы і задумы!

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# У Германавічах адзначылі 230-гадовы юбілей касцёла



**Свята было прымеркаванае да парафіяльнага адпусту ў гонар Перамянення Пана і адбылося ў нядзелю, 6 жніўня.**

Зміцер Лупач, *тэкст і фота*

На ўрачыстасць сабралася шмат вернікаў як з германавіцкай парафіі, так і гасцей з Ёдаў, Шаркаўшчыны, Новага Пагоста, Браслава, Глыбокага і іншых месцаў. Прыбыў у Германавічы і біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Яго па традыцыі з хлебам-соллю сустрэлі перад касцельнай брамай. Іерарху ўручылі таксама кветкі, пасля чаго ён акрапіў вернікаў святой вадой і ўвайшоў у храм.

Святую Імшу ўзначаліў непасрэдна віцебскі ардынарый. Да прыняцця Першай Камуніі ў гэты дзень падрыхтаваліся тры хлопцы, якія сваім спевам упрыгожылі Літургію.

У сваім слове да вернікаў біскуп адзначыў, што не кожная святыня можа пахваліцца такой гісторыяй. І хаця 230 гадоў, на першы погляд, шмат, але гэтыя тры маладыя хлопцы паказалі, што касцёл у Германавічах малады і мае сваю будучыню. Нягледзячы на трагічныя старонкі ў сваёй гісторыі, калі святыня ў часы ваяўнічага атэізму была забраная ў вернікаў і стаяла занядбаная, яна захавалася, адрадзілася і зараз тут гучыць Божае Слова. “Чалавек – выключная істота ў гэтым свеце, – падкрэсліў іерарх, – і ён знаходзіць сваё сапраўднае шчасце толькі тады, калі знаходзіць Бога”.

Біскуп заўважыў, што сёння мы адзначаем свята Перамянення Пана, і касцёл у Германавічах таксама перамяняецца. Ён ужо змяніўся ўнутры, засталося адрамантаваць яго са знешняга боку. І ён тады заззяе ўсёй сваёй прыгажосцю!

Перамяняюцца таксама вернікі, якія з'яўляюцца галоўным багаццем Касцёла. Пра іх перамяненне сведчыць той факт, што святыня ў гэты дзень была цалкам запоўненая людзьмі.

Пастыр нагадаў прысутным гісторыю пра жанчыну, што шукала ў горадзе дарогу да касцёла. Калі яна спытала ў мінака, ці вядзе гэта дарога да касцёла, то пачула ў адказ, што не, не вядзе. Тады яна ў роспачы сказала: “Навошта такая дарога, якая не вядзе да касцёла?” Таму нашы продкі, адзначыў іерарх, і стараліся будаваць храмы на перасячэнні дарог. Гэта касцёлы ў Лучаі, Глыбокім, Браславе, іншых мясцінах нашай зямлі. І Германавічы тут не выключэнне. Калі едзеш у гэта былое мястэчка, то святыня відаць здалёк.

Наша зямная дарога таксама павінна весці да храма, мы павінны верыць, што нашае жыццё не заканчваецца магілай, хоць, на першы погляд, нам так і здаецца. Не ствараў бы Бог чалавека, каб потым жыццё яго заканчвалася такім чынам. І гэта надзея на вечнае жыццё закладзеная ў натуры чалавека. Таму Бог і чакае ад нас сапраўднай веры.

Біскуп падкрэсліў, што кожную нядзелю на Імшы адбываецца перамяненне хлеба і віна ў Цела і Кроў Пана. Таму ў гэты дзень мы павінны знайсці час для Бога, каб аддаць Яму хвалу. А калі гэтага не рабіць, працаваць і ў нядзелю, то такая праца не прынясе нам карысці.

Вера яшчэ нікога не пакінула расчараваным, калі гэта вера сапраўдная, – адзначыў ардынарый. Ён распавёў прыпавесць пра моц веры. Адзін акрабат спытаў у людзей: ці верацъ яны, што ён зможа прайсці над безданню па нацягнутым канаце? Людзі адказалі, што вераць. І ён сапраўды прайшоў. Потым ён спытаў, ці вераць яны, што ён працягне па гэтым канаце тачку. І тут людзі зноў пагадзіліся, што вераць. Калі ён працягнуў тачку і зноў спытаў, ці вераць людзі, што ён правязе ў гэтай тачцы мяшок з бульбай, то людзі адказалі, што так, вераць. Калі ж акрабат зрабіў і гэта і спытаў, ці можа хто з людзей сесці ў тачку, то ахвотных не знайшлося.

Так і наша вера павінна быць моцнай, каб мы не толькі верылі знешне, фармальна, але і не баяліся давярыцца Богу. Бо калі Бог з намі, то хто супраць нас?! Таму хай гэта святыня і надалей застаецца тым месцам, дзе адбываецца сустрэча чалавека з Богам!

Падчас Імшы біскуп удзяліў Першую Камунію тром маладым хлопцам, пасля чаго яны атрымалі благаслаўленне з рук іерарха. Таксама біскуп Алег удзяліў сваё пастырскае благаслаўленне тым вернікам, што найбольш дапамагалі ў адраджэнні святыні ў Германавічах.

На Імшы прысутнічалі прадстаўнікі мясцовай улады: намеснік кіраўніка Шаркаўшчынскага раёна Юрый Васілеўскі і кіраўнік аддзела ідэалогіі і культуры Людміла Стома. Дарэчы, Германавічы таксама лічацца іх малой радзімай. Юрый Васілеўскі павіншаваў усіх з юбілеем святыні, зачытаў віншаванне ад кіраўніка раёна Дзмітрыя Ламакі, які асабіста не змог прысутнічаць на свяце, і ўручыў пробашчу парафіі ксяндзу Яну Пугачову карціну з выявай касцёла ў Германавічах. Карціну напісаў мастак Часлаў Шамшур, які працуе выкладчыкам у Віцебску.

Біскупа прывіталі таксама прадстаўнікі маладога, сярэдняга і старэйшага пакаленняў германавіцкіх вернікаў. Словы падзякі атрымаў таксама і ксёндз Ян Пугачоў, які з 2009 года служыць у Германавічах у якасці пробашча парафіі.

Іерарх благаславіў таксама новую супольнасць маргарытак, прадстаўнікі якой далі клятву да канца жыцця маліцца ў інтэнцыі біскупа Алега Буткевіча. Пасля гэтага адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і прайшла працэсія вакол касцёла. Спевам гімна “Цябе, Бога, праслаўляем” закончылася малітоўная частка ўрачыстасці. А вернікаў чакаў яшчэ канцэрт, які падрыхтавалі супрацоўнікі Дома культуры ў Германавічах. Ён адбыўся на пляцоўцы перад храмам.

Быў арганізаваны і выязны гандаль, можна было набыць цацкі для дзяцей, а таксама абразы і іншую касцельную атрыбутыку. А супрацоўнікі аддзела культуры запрасілі прысутных прыйсці вечарам на канцэртную праграму ў Дом культуры, якая таксама была прымеркаваная да юбілею храма, што з'яўляецца непасрэднай часткай часткай гісторыі Германавічаў.





# У Оршы прайшла дыяцэзіяльная парафіяда

**Яе адкрыццё адбылося ў касцёле Беззаганнага Сэрца Марыі 8 жніўня. На парафіяду прыбыла моладзь з Варапаева, Ваўкалаты, Пагошчы, Мёраў, Глыбокага, Дуброўна, Новалукомля, Чашнікаў.**

**Зміцер Лупач, Марына Сінкевіч**

Парафіяда распачалася са святой Імшы, якую ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, што адмыслова прыехаў у Оршу на адкрыццё мерапрыемства. На набажэнстве прысутнічалі святары, каторыя прыбылі ў Оршу разам з моладдзю, а таксама гурт Laudans, які сваімі спевамі і музыкай упрыгожыў святую Імшу.

На пачатку Імшы ў касцёл урачыста ўнеслі сцяг парафіяды. Гэта зрабілі навучэнцы патрыятычнага класа адной з аршанскіх школ, якія адмыслова да гэтай урачыстасці апранулі вайсковую форму.

У сваім слове да моладзі біскуп нагадаў, што быць хрысціянінам – значыць быць сведкам Езуса Хрыста. А быць сведкам – значыць абвяшчаць Божае слова. Гэта павінны рабіць не толькі духоўныя асобы, але і простыя вернікі, кожны па-свойму, з гледзішча свайго паклікання і таленту, які кожны атрымаў ад Бога.

Іерарх спытаў у моладзі: “Што трымае гэты касцёл, іншыя высокія будынкі?” Пачуўшы ў адказ, што гэта – падмурак, біскуп паразважаў над тым, што такім падмуркам у нашым жыцці павінна быць наша вера. Мы не бачым падмуркаў будынка, тым не менш на іх затрачваецца шмат працы і сродкаў, без іх будынак не зможа трывала стаяць на зямлі. Так і мы не можам трывала пачувацца ў гэтым жыцці, калі не будзем мець падмурка веры.

Падчас Імшы адбылася працэсія з дарамі, дзе іерарху паднеслі выяву мяча, спартыўны медаль як сімвал таго, што маладыя людзі будуць імкнуцца апярэдзіць адзін аднаго ў дабрыні, каб наша цела было святыняй Духа Святога. А ўручаная біскупу гостыя – сімвал вечнага жыцця з Хрыстом, віно і вада, таксама паднесеныя ардынарыю, азначаюць Кроў Хрыста і пачатак жыцця.

Напрыканцы Імшы да моладзі звярнуўся айцец Гжэгаж Ксёнжэк, што з’яўляецца ганаровым прадстаўніком Таварыства парафіяды з Варшавы і ў Оршу прыбыў як назіральнік. Ён пажадаў удзельнікам перамогі ў вачах Божых. Айцец прывёў цікавы выпадак з парафіяды ў Польшчы, калі дзяўчына бегла, да фінішу заставалася некалькі дзясяткаў метраў, і яна нечакана ўпала. Дзяўчына, што бегла другой, спынілася і стала ёй дапамагаць. У выніку ні першая, ні другая не занялі прызавых месцаў, але арганізатары спаборніцтваў найбольш адзначылі якраз іх.

Божых поспехаў як у парафіядзе, так і жыцці пажадаў моладзі і віцебскі ардынарый. Пасля Імшы перад храмам адбыўся канцэрт гурта Laudans.

Сама парафіяда доўжылася тры дні. Яна складалася з трох частак: святыня, тэатр і спорт. На працягу гэтых дзён удзельнікаў чакалі конкурсы рэлігійнай песні, спартовыя спаборніцтвы, тэатральныя прадстаўленні і шмат чаго іншага.

Арганізатарам парафіяды ў Віцебскай дыяцэзіі з’яўляецца ксёндз Валерый Орсік. Паводле яго слоў, некалькі гадоў таму ён патрапіў на парафіяду ў Польшчы і вырашыў: чаму б не правесці такое мерапрыемства і ў нас, у Віцебскай дыяцэзіі? Сёлетняя парафіяда адбылася ў трэці раз і прысвячалася стагоддзю фацімскіх аб’яўленняў Маці Божай.

Як адзначыў дк. Алег Хмылко для “Каталіцкага Весніка”, парафія-пераможца парафіяды вызначалася не толькі па колькасці перамог ва ўсіх відах спаборніцтваў, але браўся пад увагу і актыўны ўдзел у імпрэзе, ацэньваліся згуртаванасць каманды, дапамога іншаму, адносіны паміж сабой.

**Тройка найлепшых каманд** вызначылася наступным чынам: 1 месца – Глыбокае, 2 месца – Ваўкалата, 3 месца – Пагошча.



Навучэнцы патрыятычнага класа з Оршы ўрачыста ўносяць сцяг Парафіяды

## Узнагароды:

**Плаванне**

***1 група, хлопцы:***
1 месца – Алег Зіноўеў;
2 месца – Кірыл Кукуць;
3 месца – Аляксандр Ляшкевіч;

***2 група, хлопцы:***
1 месца – Аляксандр Плюта;
2 месца – Арцём Наумец;
3 месца – Яраслаў Бабровіч;
4 месца – Уладзіслаў Казачок;

***2 група, дзяўчаты:***
1 месца – Святлана Шапуцька;
2 месца – Яна Кукшцель;
3 месца – Дар’я Кукшцель;
4 месца – Наталля Вячэрская;
5 месца – Дар’я Ластоўская;

***3 група, хлопцы:***
1 месца – Віктар Прыходзька;
2 месца – Яўген Зіноўеў.

**Бег, 100 м**

***Дзяўчаты, група А:***
1 месца – Марыя Грыцкевіч *(Глыбокае)*;
2 месца – Яна Кузьміч *(Варапаева)*;
3 месца – Яна Кімстач *(Ваўкалата)*;

***Дзяўчаты, група В:***
1 месца – Дар’я Іваноўская *(Глыбокае)*;
2 месца – Паліна Валеўка *(Мёры)*;
3 месца – Яна Жук *(Варапаева)*;

***Дзяўчаты, група С:***
1 месца – Аляксандра Малец *(Глыбокае)*;
2 месца – Дар’я Груцо *(Дуброўна)*;

***Хлопцы, група А:***
1 месца – Арцём Ядзяла *(Пагошча)*;
2 месца – Міхаіл Зуеў *(Пагошча)*;
3 месца – Павел Янковіч *(Ваўкалата)*;

***Хлопцы, група В:***
1 месца – Вадзім Болтуць *(Глыбокае)*;
2 месца – Аляксандр Плюта *(Ваўкалата)*;
3 месца – Даніла Рудак *(Глыбокае)*;

***Хлопцы, група С:***
1 месца – Юрый Чырвоны *(Ваўкалата)*;
2 месца – Аляксандр Булгак *(Мёры)*;
3 месца – Аляксандр Ляшкевіч *(Глыбокае)*;

**Скачкі**

***Дзяўчаты, група А:***
1 месца – Паліна Рэут *(Мёры)*;
2 месца – Дар’я Шмель *(Ваўкалата)*;
3 месца – Яна Кімстач *(Ваўкалата)*;

***Дзяўчаты, група В:***
1 месца – Дар’я Іваноўская *(Глыбокае)*;
2 месца – Яна Жук *(Варапаева)*;
3 месца – Паліна Валеўка *(Мёры)*;

***Дзяўчаты, група С:***
1 месца – Аляксандра Малец *(Глыбокае)*;

***Хлопцы, група А:***
1 месца – Міхаіл Зуеў *(Пагошча)*;
2 месца – Павел Янковіч *(Ваўкалата)*;

***Хлопцы, група В:***
1 месца – Сяргей Падрэз *(Ваўкалата)*;
2 месца – Аляксандр Плюта *(Ваўкалата)*;
3 месца – Даніла Рудак *(Глыбокае)*;

***Хлопцы, група С:***
1 месца – Андрэй Януль *(Пагошча)*;
2 месца – Алег Зіноўеў *(Новалукомль)*;
3 месца – Аляксандр Ляшкевіч *(Глыбокае)*;

**Валейбол:**
1 месца – Ваўкалата;
2 месца – Глыбокае;
3 месца – Мёры;

**Футбол:**
1 месца – Ваўкалата;
2 месца – Мёры;
3 месца – Глыбокае;

**Тэніс:**
1 месца – Ілля Раманёк;
2 месца – Арцём Кейзік;
3 месца – Макар Янковіч;

**Шашкі:**
1 месца – Аляксандр Булгак;
2 месца – Яўген Зіноўеў;
3 месца – Ян Грыбко;

**Конкурс малюнка:**
1 месца – Сафія Красавена *(Мёры)*;
2 месца – Эвеліна Кашчэева *(Новалукомль)*;
3 месца – Дар’я Іваноўская *(Глыбокае)*;

**Гімн Парафіяды:**
1 месца – Варапаева;
2 месца – Ваўкалата;
3 месца – Новалукомль;

**Сцэнка:**
1 месца – Пагошча;
2 месца – Новалукомль;
3 месца – Мёры;

**Пераможцы III Дыяцэзіяльнай парафіяды атрымалі ў падарунак двухтыднёвы адпачынак у Польшчы наступным летам і ўдзел у 30-й Міжнароднай парафіядзе ў Варшаве ў 2018 годзе.**





Спявае Валянціна Альшанская

# У свята Перамянення Пана ў Чашніках адбыўся парафіяльны фэст

**Свята ладзілася ў суботу, 5 жніўня. Гэта быў першы парафіяльны фэст, які ў якасці пробашча мясцовай парафіі арганізаваў ксёндз Мікалай Ліпскі.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Да гэтага ксёндз Мікалай дзесяць гадоў адпрацаваў у Лучаі Пастаўскага дэканата, і лучайскія фэсты былі вядомыя практычна ва ўсёй Беларусі.

На ўрачыстасць прыехалі чатыры святары: Валерый Орсік з Оршы, Віталь Галец з Ушачаў, Віталь Янкевіч з Талачына і Аляксандр Півавар з Бешанковічаў. Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Валерый Орсік, слова да вернікаў прамовіў ксёндз Віталь Янкевіч. Святар распавёў пра традыцыю святкавання ўрачыстасці Перамянення Пана. Гэта свята асаблівым чынам адзначалася ва ўсходніх цэрквах, а ў заходніх стала адзначацца з XI стагоддзя. Урачыстасць служыць больш глыбокаму пазнанню веры. Яна адзначаецца ў памяць таго, калі Езус Хрыстус падняўся са сваімі вучнямі на гару Табор і там перамяніўся. Ён размаўляў там з прарокамі Іллёй і Маісеем пра тую чашу, якая ў хуткім часе Яго чакала. "Трэба, – падкрэсліў святар, – каб мы таксама прагнулі хвалы Божай, якую тады ўбачылі вучні Хрыста".

Любоў да Бога павінна быць у нас на першым месцы, а потым ужо можа стаяць любоў да бліжніх. Мы часта з гэтым не пагаджаемся: маўляў, як я магу любіць Бога больш за сваю маці, свайго сына ці дачку. Але калі Бог у нас не на першым месцы, то і нашы блізкія потым ад нас адварочваюцца, дзеці забываюцца на сваіх бацькоў.

Нам у першую чаргу трэба самім перамяніцца, а мы ўсё чакаем, каб пераменіўся нехта іншы. А пачаць трэба з самога сябе, і свет тады таксама пераменіцца. Ксёндз Віталь перасцярог вернікаў, каб не прамянялі хвалу Божую на другасныя рэчы. Ён заклікаў маліцца за тых, хто зараз знаходзіцца далёка ад Бога, каб яны маглі адумацца і навярнуцца. Святар таксама падкрэсліў, што калі мы будзем верныя Богу ў малых справах, то Ён дасць нам і вялікія.

Напрыканцы Імшы ксяндза Мікалая, які 3 жніўня адзначыў свой юбілей, павіншавалі вернікі з Шаркаўшчыны, што адмыслова прыехалі ў Чашнікі, каб падтрымаць свайго земляка.

Ксёндз Мікалай у сваю чаргу падзякаваў усім гасцям свята, адзначыўшы, што нам, як і вучням Хрыста, добра тут усім разам. Ён заклікаў людзей не разыходзіцца, бо пасля святой Імшы іх чакаў яшчэ святочны канцэрт. "Гэта свята зроблена не для мяне, – адзначыў пробашч, – а для кожнага з вас".

У заключнай частцы набажэнства адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, пасля чаго прайшла ўрачыстая працэсія вакол касцёла.

Закончылася свята спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем" і песні "Малюся за цябе, Беларусь".

> **"Для жыхароў Чашнікаў такое было ўпершыню, і шмат хто глядзеў канцэрт з-за касцельнага плоту"**

Пасля гэтага святкаванне перамясцілася на прыкасцельную тэрыторыю. Вернікаў чакаў салодкі стол, дзеці маглі пабавіцца на батутах і горках. А запрошаныя артысты распачалі тым часам канцэрт, які вяла знакамітая Валянціна Альшанская.

Трэба адзначыць, што ксяндза Мікалая падтрымалі і мясцовыя ўлады, якія прадаставілі нават надзіманую сцэну. На канцэрце выступілі спявачка Валянціна Альшанская, гурт з Полацка "Ферцінкі", спявак Сяргей Савіцкі і вакальны праект "Нонсэнс".

Варта падкрэсліць, што амаль усе гледачы даглядзелі канцэрт да канца, а працягваўся ён больш за тры гадзіны (!) Для жыхароў Чашнікаў такое было ўпершыню, і шмат хто глядзеў канцэрт з-за касцельнага плоту.

Закончылася свята сумесным выкананнем спевакамі гімну "Магутны Божа" і святочным феерверкам.



# Моладзь імкнецца да Бога!

**16-18 жніўня ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе праходзіла сустрэча моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Сваімі ўражаннямі ад Дыяцэзіяльных дзён моладзі з "Каталіцкім Веснікам" падзяліліся маладыя вернікі:**



**Аляксандр Баранаў, Мінск:**

– На моладзевую сустрэчу ў Браслаў я прыехаў упершыню. Тут мне вельмі спадабалася. Думаю, што зноў сюды буду прыязджаць. Асабліва запомніліся канферэнцыі, якія дапамагаюць і паказваюць шлях да Бога.



**Вераніка Кяпсня, друйская парафія:**

– Ужо чацвёрты раз я на такой сустрэчы моладзі. Для мяне гэта час, праведзены разам з Богам, гэта пэўнае ўмацаванне маёй веры. Вельмі падабаецца прыязджаць сюды, бо атрымліваю духоўныя сілы і зарад энергіі на ўвесь год!

Хачу пажадаць нашай моладзі часцей збірацца разам і праслаўляць Бога!



**Сафія Брандыкова, Полацк:**

– Я вельмі люблю моладзевыя сустрэчы. У тым годзе патрапіла ў Польшчу на Сусветныя дні моладзі, а тут, у Браславе, была ўжо чатыры разы.

Праведзены тут з Богам час цудоўны: святая Імша, адарацыя... Можна сустрэць сваіх знаёмых і пазнаёміцца са шмат якімі новымі людзьмі, а таксама з задавальненнем паслухаць прыгожыя спевы моладзевага хору!



**Ліза Панасюк, Мінск:**

– Я сюды прыехала разам з супольнасцю "Эўхарыстычны рух маладых". У Браславе я ўпершыню. І было прыемнай неспадзяванкай, што мы патрапім на Дыяцэзіяльныя дні моладзі. На самай справе тут можна сустрэць вельмі шмат добрых людзей.

Лічу, што для падлеткаў неабходныя такія сустрэчы, каб паглыбляць сваю веру. Важнай з'яўляецца і супольная малітва, якая дапамагае зразумець, што Бог з табой, ты не адзін!



**Антон Доўнар, Барысаў:**

У Браславе працуюць айцы-сальватарыяне. Заўсёды, калі прыязджаю ў парафію, дзе працуюць манахі, адчуваю такі своеасаблівы дух. І ў Браславе таксама адчуваю такі дух. Святары, што праводзілі тут канферэнцыі, вельмі натхнялі! Думаю, што ў наступным годзе зноў прыеду сюды.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Ці шмат вы ведаеце пра апосталаў?

**Што ты ведаеш пра найбліжэйшых вучняў Хрыста? У новым тэсце правер свае веды.**

1 Ён – брат апостала Пятра...



А. Апостал Андрэй
Б. Апостал Філіп
В. Апостал Тамаш

2 Хто з апосталаў з'яўляецца аўтарам 5-ці кніг Новага Запавету?



А. Апостал Ян
Б. Апостал Мацвей
В. Апостал Якуб

3 Каго да Хрыста прывёў апостал Філіп?



А. Апостала Барталамея
Б. Апостала Андрэя
В. Апостала Юду

4 Яго не было сярод апосталаў, калі з'явіўся Езус у дзень уваскрасення. Ён таксама спачатку не паверыў у змёртвыхпаўстанне Хрыста.



А. Апостал Тамаш
Б. Апостал Якуб
В. Апостал Пётр

5 Гэты апостал быў гатовы пайсці за Хрыстом у Юдэю, калі Езуса ўжо шукалі, каб пабіць камянямі. Такімі былі яго словы: "Пойдзем і мы, каб памерці разам з Ім". (Ян 11, 16)



А. Апостал Пётр
Б. Апостал Тамаш
В. Апостал Філіп

6 У Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія) знаходзіцца магіла з парэшткамі гэтага апостала.




А. Апостала Філіпа
Б. Апостала Якуба
В. Апостала Паўла

7 Хто з'яўляецца аўтарам Евангелля, з якога пачынаецца Новы Запавет?



А. Апостал Павел
Б. Апостал Мацвей
В. Апостал Ян

8 На крыжы Хрыстос даручыў яму клапаціцца пра сваю Маці – Марыю.



А. Апосталу Пятру
Б. Апосталу Філіпу
В. Апосталу Яну

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

Правільныя адказы на тэст глядзі на старонцы 12



# "Паглядзі, які смешны святы!", або Як нараджаецца пакліканне?

**Ксёндз Здзіслаў Вэдэр SDB – салезіянскі святар, які нарадзіўся ў Польшчы, але шмат зрабіў для Касцёла ў Беларусі. Пра сваё пакліканне святар распавёў "Каталіцкаму Весніку".**

**■ Ірына Радзевіч**

Нарадзіўся кс. Здзіслаў 22 студзеня 1936 года ў Польшчы. Пакліканне да святарскага жыцця адчуў, калі пачаў хадзіць у школу. Тады настаўнікі вадзілі дзяцей на рэкалекцыі ў касцёл. Святар прыгадвае: "Я добра памятаю той дзень, тое месца, на якім стаяў, памятаю святара, які гаварыў казанне... Мне тады прыйшла думка, каб стаць ксяндзом. Тады мне яшчэ не было і 12-ці гадоў. Калі вярнуўся дамоў, распавёў пра сваё жаданне маме, якая нічога на гэта не адказала".

Ад таго моманту, ад 1947 года, ксёндз Здзіслаў пачынае жыць толькі думкай пра рэалізацыю свайго жадання. Пасля школьных заняткаў ён часта маліўся, потым збудаваў сабе невялічкі алтарык. У гэты ж перыяд прыйшла думка ўступіць у францішканскую супольнасць.

Пра такі выпадак прыгадвае ксёндз Здзіслаў: "Аднойчы я чытаў часопіс "Рыцар Беззаганнай" і там пабачыў, што францішкане прымаюць кандыдатаў да законнага жыцця. Нікому нічога не сказаўшы, напісаў просьбу пра тое, каб мяне прынялі. Але нейкім чынам мае стрыечныя сёстры даведаліся, што я маю нейкую таямніцу. Яны хацелі забраць гэтае пісьмо, таму я ўцякаў ад іх дзесяць 15 хвілін. Урэшце яны мяне акружылі, не было выйсця. І давялося выкінуць маю просьбу ў калодзеж. Так скончылася маё пакліканне да францішканскага закону".

Знаёмства з ксяндзом Боска (заснавальнікам ордэна салезіянаў) адбылося, калі будучы ксёндз Здзіслаў са сваім братам спазніўся ў нядзелю ў касцёл. Хлопцы вырашылі застацца на другую Імшу. У перапынку яны пайшлі ў парафіяльную краму. Тады, убачыўшы выяву з кс. Боска, будучы святар сказаў брату: "Паглядзі, які смешны святы!"

Святар адзначае: "Зараз я б сказаў па-іншаму: "Які радасны святы"!

Ужо пад канец года, пасля сканчэння сямігадовай школы, настаўніца пыталася ў вучняў, кім яны хочуць стаць.

> **"Калі ж чарга падышла да Здзіслава, ён падмануў і сказаў, што будзе шаўцом. Настаўніца ж на гэта адказала: "Хоць адзін выбраў практычную прафесію""**

"У той дзень, калі я выйшаў на калідор, убачыў манахінюуршулянку, якая вяла ў нас заняткі па рэлігіі. Яна спытала, што са мной здарылася. А я ёй адказаў так: "Сястра, я хачу быць святаром і не ведаю, куды пайсці". Манахіня расказала, што да іх у кляштар прыходзіць ксёндз-салезіянін Аляксандр Дрозд. Яна нас і пазнаёміла", – распавядае святар.

Нікому нічога не сказаўшы, хлопец выпраўляецца да інспектара салезіянаў. Сакратар інспектара расказаў, што ёсць Ніжэйшая салезіянская семінарыя ў Лёндзе. Маючы 13 гадоў, Здзіслаў напісаў туды просьбу. Праз некалькі дзён прыйшоў адказ аб тым, што ён прыняты.

Толькі потым пра ўсё расказаў родным. Мама завезла хлопца ў семінарыю. Было 1 верасня 1949 года. У 1951 годзе пачаўся навіцыят у Чэрвінску на Вісле. У 1952 годзе кс. Здзіслаў склаў першыя законныя шлюбы на тры гады. Святарскае пасвячэнне атрымаў 3 чэрвеня 1962 года. Потым было служэнне ў Польшчы: заканчэнне спецыяльных тэалагічных курсаў, праца ў салезіянскіх фармацыйных асяродках і ў парафіяльным душпастырстве...

У Беларусь ксёндз Здзіслаў трапляе ў 1990 годзе. Нёс служэнне ў Жупранах, Лідзе, Смаргоні. У 2015 годзе быў прызначаны духоўным айцом гродзенскай семінарыі. У 2017 годзе накіраваны на працу ў Смаргонь.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вераніка Абуховіч** *(ДУнілавічы)*, **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Ірына Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Алена Тумаш** *(Любань)*, **Рамуальда Рудзінская** *(Яцкавічы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **парафіяне з Дуброўна**, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Елізавета Красілеівч** *(Казлоўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **вернікі з Прошкава**, **Часлава Вышадка** *(Канстанцінава)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Каляндар на верасень



Фэст у гонар святога Арханёла Міхала ў Лужках, 2014 год. *Фота Марыны Сінкевіч*

**8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак пра жыццё Багародзіцы, і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксавана толькі ў касцельным паданні, каторае расказвае, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім з роду цара Давіда і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя нарадзілася па адмысловым зароку Бога, дадзеным Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў сталым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзена Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва. Першыя згадванні пра свята Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час падзея была ўключана ў касцельны каляндар.

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**

У гэты дзень праслаўляем Яе імя – "Марыя", якое, паводле традыцыі, Яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўлялася побач з імем Езуса.

**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, у якім устанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем І.

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і церпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць звышнатуральнае жыццё душ.

**21 верасня – успамін св. Мацвея, апостала і евангеліста.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**

Франчэска Фарджонэ – будучы айцец Піа – нарадзіўся 25 мая 1887 г. у П'етрэльчыне (Паўднёвая Італія). У шаснаццацігадовым узросце ўступіў у закон капуцынаў і праз сем гадоў прыняў святарскае пасвячэнне. У 28 гадоў айцец Піа атрымаў стыгматы – раны, як у Езуса Хрыста, што прычынялі яму нясцерпны боль. З-за накладзеных на яго абмежаванняў падрэ Піа прысвяціў сябе паглыбленаму духоўнаму жыццю, асабліва культу Эўхарыстыі, Мукі Пана і Маці Божай Балеснай, а таксама апостальству споведзі. Айцец Піа вядомы таксама як містык: ён меў дар білакацыі (адначасовага знаходжання ў двух месцах), дары мовы, чытання ў сумленні, прадказання будучыні. Акрамя таго, ён заснаваў Дом палёгкі ў цярпенні – сучасную медыцынскую ўстанову, якая разам з тым з'яўляецца месцам малітвы і навукі, а таксама міжнародны малітоўны рух, што ахоплівае сотні груп вернікаў па ўсім свеце.

Падрэ Піа памёр 23 верасня 1968 г. у Сан-Джаванні Ратонда, дзе і быў пахаваны. Праз трыццаць гадоў пасля смерці ён быў беатыфікаваны, а ў 2002 г. кананізаваны.

**27 верасня – успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара.**

Святы Вінцэнт дэ Поль нарадзіўся ў Паўднёвай Францыі ў 1581 г. у беднай сялянскай сям'і. Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ў 1600 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. Праз пяць гадоў быў захоплены піратамі і тры гады правёў у рабстве ў Тунісе. У 1617 г. святы Вінцэнт прысягнуў да канца свайго жыцця служыць бедным і ў тым жа годзе арганізаваў Брацтва міласэрнасці – супольнасць свецкіх сясцёр. Праз тры гады ён заснаваў мужчынскае таварыства служыцеляў бедных. З мэтай павышэння ўзроўню ўнутранага жыцця духавенства ўвёў практыку рэкалекцый перад пасвячэннем і заснаваў духоўныя семінарыі пад кіраўніцтвам святароў-місіянераў. Паколькі сядзіба супольнасці Місій знаходзілася побач з парыжскім касцёлам святога Лазара, законнікаў пачалі называць лазарыстамі.

У 1633 г. Вінцэнт дэ Поль разам з Луізай дэ Марыяк заснаваў законную супольнасць Дачок міласэрнасці, вядомых пад назвай шарыткі (ад французскага слова charity – міласэрнасць). Памёр святы ад знясілення 27 верасня 1660 года ў Парыжы. 13 жніўня 1729 г. Папа Бэнэдыкт XIII абвясціў Вінцэнта дэ Поля блаславёным, а 16 чэрвеня 1737 г. Папа Клімент XII далучыў яго да ліку святых.

**29 верасня – Дзень святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым Пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Беларусь у "святых" гербах: Браслаў

**Адзін з нешматлікіх гербаў "святой" Беларусі, які мае не выяву святога, а адзін з хрысціянскіх сімвалаў – вока Провіду Божага.**

■ айцец Андрэй Сідаровіч MIC, *Росіца*





Сёння ўжо немагчыма даведацца, чым кіраваўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, выбіраючы такі, а не іншы знак для герба аднаму з найстарэйшых паселішчаў Віленскага Ваяводства – Браславу.

Магдэбургскае права, якое Браслаў атрымаў у далёкім 1500 годзе, было частковым, няпоўным, можа, менавіта таму не захаваліся ніякія звесткі пра наданне герба. Але ў пацвярджэнні гарадскіх правоў з 1792 года маем нават малюнак – як герб выглядаў, але не захавалася дакладнае апісанне колеравай гамы.

Вока як сімвал боскасці выкарыстоўвалася ў розных рэлігіях. Так, егіпцяне, малюючы адмысловае вока, пазначалі прысутнасць бога Ра ў сваім жыцці. Цікава, што вока сустракаецца і ў габрэяў. Неаднойчы вока выразалі на мацэвах, надмагільных каменных табліцах.

Хрысціянская сімволіка першых стагоддзяў была іншай і практычна не выкарыстоўвала сімвал вока. Хрысціяне малявалі рыбу, авечку, голуба, якар, літары альфа і амега, знак пакс і г. д. Вока Провіду Божага, і то абавязкова ў трохвугольніку, з'яўляецца ў 17 ст. і вельмі хутка становіцца папулярным сімвалам. Мы, хрысціяне, называем гэта Вокам Божага Провіду, вызнаючы таксама, што Бог клапоціцца пра кожнага чалавека і бачыць яго жыццё. Менавіта з такім разуменнем, што вочы Бога скіраваныя на чалавека, каб яму дапамагчы, а не каб пастаянна пільнаваць і караць за грахі.

Трохкутнік – гэта таксама важнае вызнанне веры ў Святую Тройцу. На гербе мы бачым і жоўтыя прамяні, якія нагадваюць сонца. Хутчэй за ўсё ў першапачатковай задуме гэта не было сонца, а прамяні Божай славы.

Цікава, што неаднойчы, малюючы вока прадбачання, мастакі таксама адлюстроўвалі Божае вуха, якое ўсё чуе і скіраванае, каб пачуць малітвы чалавека. Адзін з такіх абразоў можна ўбачыць на Гары Кальварыі (Польшча) у Санктуарыі святога Станіслава Папчынскага, заснавальніка Кангрэгацыі айцоў-марыянаў.





# Ці можна прасіць пра малітву таго, хто яшчэ не прызнаны святым?

*"Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці можна прасіць пра малітву таго, хто яшчэ не прызнаны святым, напрыклад, забітага святара Жака Амэля? Дзякуй за адказ".*
*Ян*

**На пытанне адказвае ксёндз Ян Раманоўскі:**

– Адной з праўдаў каталіцкай веры з'яўляецца дагмат пра заступніцтва святых (лац. communio sanctorum). Гэта праўда засноўваецца на святой камуніі, адзінстве (гр. koinonia) паміж Касцёлам, які пілігрымуе на зямлі, і Касцёлам збаўленых, або Касцёлам Святых. Аднак у гэтым значэнні слова "святых" азначае не толькі хрысціянаў, якія памерлі і ўжо падчас свайго зямнога жыцця былі названыя святымі, а пасля афіцыйна кананізаваныя Касцёлам. Належаць сюды ўсе, хто праз Святы хрост прыняў святасць Хрыста і быў далучаны да Містычнага Цела Хрыста, сваім жыццём даў прыклад вернасці Збаўцу, Божым запаведзям і Касцёлу. Ёсць вельмі шмат людзей, якія адышлі з гэтага свету, пражыўшы сваё жыццё як святыя, але ніколі, напэўна, не будуць афіцыйна абвешчаныя святымі. І лагічна мы верым у тое, што яны ўжо залічаныя да ліку святых і цешацца з вечнай радасці. Таму мы можам звяртацца праз іх заступніцтва, выпрошваючы патрэбныя ласкі, так як нас навучае Касцёл у дагмаце пра заступніцтва святых.

У выпадку, напрыклад, малітвы праз заступніцтва Жака Амэля, французскага святара, які быў забіты ісламістамі ў 2016 г., трэба адзначыць, што ўжо пачаўся афіцыйны беатыфікацыйны працэс, які папярэджвае абвяшчэнне блаславёным. Адным з важных элементаў гэтага працэсу з'яўляецца цуд, што адбываецца праз заступніцтва гэтай асобы. Таму малітва праз заступніцтва названага святара, напэўна, можа мець месца. І не толькі таму, што пачаўся беатыфікацыйны працэс, але таксама таму, што мы верым: сваім жыццём і мучаніцкай смерцю ён залічаны да ліку Святых, якія папярэдзілі нас у нашым пілігрымаванні да Нябеснай Айчыны і маюць удзел у вечнай радасці.

# Святы Януарый Святы, у якога "закіпела" кроў

**Гісторыкам цяжка прабіцца праз імглу 17-ці стагоддзяў, каб з упэўненасцю сказаць, якім чалавекам быў Януарый: добрым ці дрэнным, спакойным ці нервовым, працавітым ці лянівым?**

**■ айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*



Цяжка апісаць без выдумкі яго звычкі, упадабанні, зацікаўленасці. Адно можам сцвердзіць упэўнена: Януарый праліў сваю кроў за Хрыста, аддаў за веру сваё жыццё.

Мучаніцтва Януарыя ў прынцыпе не адрозніваецца ад апісанняў мучаніцтва хрысціянаў у часы пераследу імператара Дыяцыкляна. Ён, будучы біскупам Беневенту, горада размешчанага недалёка ад Неапаля ў Італіі, сумленна выконваў свае пастырскія абавязкі. Калі пачаліся ганенні, як добры пастыр Януарый, не зважаючы на пагрозы арышту, пайшоў з дыяканамі ў вязніцу, каб падтрымаць сваіх авечак. Быў схоплены ўладамі і прысуджаны да смерці на арэне з дзікімі жывёламі. Паколькі яго вельмі шанавалі ў горадзе, незадавальненне і абурэнне жыхароў было такое вялікае, што ўлады змянілі від пакарання. Януарый загінуў як рымскі грамадзянін, можна сказаць, смерцю шляхецкай, праз адсячэнне галавы мячом.

Магчыма, сёння многія з нас не мелі б паняцця пра аднаго з многіх мучанікаў таго часу, каб не богабаязная жанчына, якая ў дзве празрыстыя ампулкі сабрала кроў святога. Як паказваюць даследаванні, з абсалютнай упэўненасцю можна сцвярджаць, што і самі ампулкі, і коркі на іх сапраўды з 3-4 стагоддзяў.



Гэтыя ампулкі з крывёй Януарыя як каштоўная рэліквія прайшлі ўсе гістарычныя завірухі і ад XVII стагоддзя прыцягваюць увагу вернікаў. Менавіта тады першы раз здарылася нешта, што сёння мы называем цудам крыві святога Януарыя. Нешта, што не паддаецца ніякай сістэматызацыі і навуковаму тлумачэнню. Бо як патлумачыць, што ў дзень успаміну святога, 19 верасня, кроў у ампулках пачынае мяняць свае характарыстыкі – з цвёрдай на вадкую, пачынае пузырыцца, як бы закіпае, ажывае! Зноў жа, гэта адбываецца ў розныя дні, незалежна ад таго, ці ёсць малітва, ці ёсць натоўпы вернікаў. Больш за тое, сам працэс змены не паддаецца сістэматызацыі – пераход да вадкай формы можа адбыцца хутка, на вачах, а іншым разам гэта займае шмат часу. Таксама на вачах неадназоўна павялічваўся аб'ём крыві ў ампулках (!) Як бы аспрэчваючы ўсе вядомыя законы фізікі... Вучоныя не маюць сумневаў толькі ў адным: гэта сапраўды кроў чалавека, без дамешак хімічных субстанцый (!)

Можна пытацца, чаму Бог дае нам такі цуд? Што ён мае нам сказаць, у чым пераканаць? Мне падабаецца тлумачэнне аднаго з багасловаў: кроў святога Януарыя "закіпае", бо ён з нецярплівасцю чакае свайго ўваскрасення! З нецярплівасцю чакае Хрыста і нас заахвочвае чакаць. Храм, дзе знаходзяцца рэліквіі святога Януарыя, – гэта славутае месца споведзі і навяртання.

## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 верасня – імяніны** адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*;

**4 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*, **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Юры Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**9 верасня – імяніны** адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**18 верасня – імяніны** адзначае **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 верасня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**21 верасня – дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко**, **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Навапалацк)*;

**23 верасня – дзень нараджэння** адзначае **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**;

**26 верасня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Андрэй Аніскевіч** *(Віцебск)*;

**28 верасня – імяніны** адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*, **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Ідолта)*, **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Расоны)*;

**29 верасня – гадавіну біскупскага пасвячэння** адзначае **біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**; **дзень нараджэння** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; **імяніны** адзначаюць **а. Міхал Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Міхал Татарэнка** *(Лужкі)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
**Ірына Радзевіч**

# Што азначаюць рэчы з розных металаў на абразах?

***"Часта, бываючы ў розных санктуарыях, святых месцах на абразах бачу рэчы з выявамі чалавечых органаў, напрыклад, сэрца. Таксама і іншыя рэчы з розных металаў. Навошта яны там змешчаны і што азначаюць? Растлумачце, калі ласка".***
*Віктар*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC з Росіцы:**

– Сапраўды, асабліва ў святых месцах, санктуарыях можам сустрэць абразы ці фігуры, дзіўна абвешаныя або ружанцамі, або залатымі і срэбнымі выявамі часцей цела чалавека. Усё гэта людзі прыносяць як свой падарунак, падзяку Богу за выслуханыя ласкі. Часта сведчаннем фізічнага аздараўлення з'яўляецца канкрэтная, вылітая з шляхетнага металу частка цела: рука, нага, вуха, вока і г. д. У традыцыі Касцёла гэта называецца "вотум" – у перакладзе з лацінскай – "дар". Сэрца – гэта найчасцей знак навяртання чалавека. Даводзілася бачыць у храмах не толькі часткі цела, але таксама таблічкі з кароткай гісторыяй аздараўлення або вяртання да Бога.

Падзяка за атрыманыя ласкі магла прымаць розныя формы. Неадназова даводзілася бачыць аздобленыя багатымі пярсцёнкамі літургічныя крыжы або манстранцыі. Кусташы святых месцаў тлумачаць, што так людзі дзякуюць Богу за заханыя сужэнствы, за дар аднаўлення сямейнага жыцця.

Зноў жа, у старажытнасці вотум мог прымаць і іншыя формы. Напрыклад, калі чалавек быў заможны, то фундаваў як удзячнасць Богу за атрыманыя ласкі, касцёл або кляштар. Больш сціплая форма падзякі магла выражацца ў пастаноўцы прыдарожнага крыжа або пабудове прыдарожнай каплічкі. Таксама неаднаразова людзі з большым дастаткам фундавалі будаўніцтва шпіталяў або прытулкаў для бедных.



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*29 жніўня адзначае Дзень нараджэння **айцец Вячаслаў Пялінак**, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у в. Ідолта Мёрскага раёна.*

*Шаноўны а. Вячаслаў! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды і ў сваёй малітве памятаем пра Вас! Няхай Езус Хрыстус бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая хай ахінае сваёй любоўю і апекай, Дух Святы дапамагае ў душпастырскай паслузе і шчодра адорвае ласкамі! Нязломнай веры, моцнай сілы волі, здзяйснення ўсіх планаў! Няхай засеянае Вамі зерне на Божай ніве прыносіць добры плён!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважанаму **ксяндзу Вячаславу Пялінку** з нагоды Дня нараджэння (29 жніўня) складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілаў, цярпення і нястомнасці ў святарскім служэнні!*

*Вы імкнецеся напоўніць нашы душы Божай любоўю і гармоніяй. Няхай наш Нябесны Айцец шчодра ўзнагародзіць Вас за ўсе малітвы, за мудрую навуку, за Ваша чулае сэрца, за цярплівасць і спагаду! Мы заўсёды памятаем Вас у сваіх малітвах і шчыра ўдзячныя Пану Богу, што ў нашай парафіі служыць такі святар.*

*Няхай добры Бог Вас не пакіне без сваёй апекі, а Маці Божая хай абараняе і падтрымлівае! Мы будзем імкнуцца захоўваць святыню ў нашай мясцовасці і хочам, каб Вы заставаліся з намі яшчэ не адзін дзясятак гадоў!*

***З любоўю і павагай, вернікі ідолтаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Ад шчырага сэрца віншуем з днём святарскага пасвячэння (18 жніўня) нашага шаноўнага **ксяндза Антона Лагунёнка**! Хочам падзякаваць яму за служэнне ў нашай парафіі, за прыгожыя казанні, за пачуццё гумару, за падтрымку ў цяжкіх сітуацыях, за добрыя і патрэбныя словы як для старога, так і для малога! Намаганні ксяндза Антона і яго шчырая малітва аб'ядноўваюць парафіян вакол касцёла і вядуць дарогай збаўлення!*

***Ад усіх парафіян касцёла св. Язафата ў в. Канстанцінава, Часлава Вышадка***

## Хвала Хрысту!

*5 жніўня наш **пробашч Юрый Жаўнярові**ч адзначае 10-годдзе святарскага пасвячэння.*

*Паважаны ксёндз Юрый! Віншуем Вас з гэтай знамянальнай падзеяй!*

***Віншуем шчыра Вас са святам!***
***Хай Бог адорыць ласкамі багата,***
***А Маці Божая сваёй апекай***
***Вас атуляе сёння і навекі!***

***Святарства дар – каштоўны скарб ад Бога,***
***Хоць да яго цярністая дарога!***

*Жадаем як мага больш узнёслай і светлай радасці, паўнаты святарскага шчасця, моцнага здароўя і шчодрай Божай ласкі на кожны дзень!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа, аг. Ахрэмаўцы***

## Хвала Хрысту!

*У нашай дарагой **сястры-катэхеткі Ганны Блышко** 1 верасня юбілей. Ад шчырага сэрца віншуем яе!*

*Паважаная сястра Ганна! Здароўя Вам, трываласці, заступніцтва Маці Божай Падхорнай Глыбоцкай! Няхай добры Бог заўсёды падтрымлівае Вас у жыцці і добрых справах, а Дух Святы хай шчодра адорвае сваімі дарамі!*

*Дзякуем Вам за служэнне ў нашай парафіі. Гэта Вашымі намаганнямі, вялікай любоўю да дзетак і цярплівасцю дзясяткі маленькіх парафіян рыхтуюцца да Першай Камуніі. Дзеці з радасцю наведваюць катэхетычныя заняткі, разам з Вамі рыхтуюць батлейку да Божага Нараджэння, разам з Вамі ўвесь кастрычнік моляцца на ружанцы ля алтара, прымаюць удзел у Раратах, пасля прыняцця Першай Камуніі ў Белы тыдзень цудоўна спяваюць, чытаюць Божае слова, падносяць дары да алтара. Кожны год разам з Вамі нашы дзеці адпачываюць у летніку і знаёмяцца са святынямі нашай дыяцэзіі падчас экскурсій.*

*Шчасці Вам, Божа!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Хвала Хрысту!

*3 жніўня святкуе свой юбілейны год нараджэння наш былы пробашч **ксёндз Мікалай Ліпскі**.*

*Сардэчна віншуем Вас, ксёндз Мікалай, з нагоды дня нараджэння і выказваем вялікую пашану і падзяку за працу у нашай парафіі, за праслаўленне і прыгажосць нашай святыні, за тое, што яе называюць «Пярлінай Беларусі» і за аднаўленне яе гісторыі! Мы ўдзячныя Вам за усё, што Вы зрабілі для нас і Касцёла!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі на твары, каб у той парафіі, у якой Вы працуеце цяпер, хапіла патрэбных сіл для здзяйснення планаў і задум, каб было як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў. Няхай Вам у гэтым дапамагае Пан Бог!*

*Дароў Вам Духа Святога, апекі Маці Божай і ўсіх Божых ласкаў! Мы Вас памятаем у сваіх малітвах.*

*Жадаем усяго найлепшага на новым месцы працы! Хай Вас адорыць Божа Міласцівы Сваёю ласкай, дабрынёй, цяплом! І хай парафія Вас наша ўспамінае, што былі Вы нашым святаром.*

***Вернікі капліцы Божай Міласэрнасці, якія Вас памятаюць і паважаюць (аг. Навасёлкі, лучайская парафія)***

## Хвала Хрысту!

*3 жніўня – Дзень нараджэння ў **ксяндза Мікалая Ліпскага**, былога пробашча парафіі св. Юды Тадэвуша ў Лучаі.*

*Праз кіламетры адлегласці дасылаем Вам, паважаны ксёндз Мікалай, нашы шчырыя віншаванні! Створаны Вамі аазіс непаўторнай прыгажосці вакол касцёла і ў духоўным жыцці парафіі назаўсёды застанецца для нас і для будучых пакаленняў! Ад усёй душы жадаем Вам:*

***Светлых ранкаў, яснага сонца,***
***Божай Любові і ласкі бясконцай,***
***Шчодрасці жніўня, неба блакіту,***
***Вернікаў шчырых з душою адкрытай!***
***Хай плённаю будзе Ваша дарога!***
***Моцы і сілы ад Духа Святога!***
***Радасць быцця мець у кожным імгненні,***
***Шчасця, здароўя! З Днём нараджэння!***

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі лучайскага касцёла***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз Уладзімір Шымковіч**, ад шчырага сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння (7 жніўня). Жадаем Вам моцнага здароўя на доўгія гады. Няхай Божая Маці заўсёды апякуецца, а Дух Святы дае сілы і шчодра адорвае ласкай за Вашу адданую працу на Божай ніве!*

***Парафіяне лынтупскага касцёла, Пастаўскі р-н***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем словы віншавання, вялікай удзячнасці і радасці **ксяндзу Уладзіміру Шымковічу**, які працаваў у нашай парафіі, з нагоды Дня нараджэння (7 жніўня)!*

*Мы ўдзячныя Богу за такога цудоўнага святара, каторы вельмі шмат зрабіў для нашага касцёла.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, паважаны ксёндз Уладзімір, душэўнага спакою, апекі Найсвяцейшай Панны Мары, радасці, моцнага здароўя, сонечных дзён, плённай працы, Божага блаславення на доўгія гады жыцця!*

***Вернікі ідолтаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні **ксяндзу Уладзіміру Шымковічу** з нагоды Дня нараджэння (7 жніўня)!*

*Паважаны ксёндз Уладзімір! Жадаем Вам нястомнай радасці, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя! Няхай Вашыя мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця, а любоў і супакой хай застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы!*

***Хай ад Бога Айца Вам здароўе даецца,***
***І як Сэрца Езуса праменіцца Вашае сэрца!***
***Хай ад Духа Святога даецца Вам мудрасць і сіла,***
***А ад Божае Маці – развážнасць, ласкавасць, цярплівасць!***

***З павагай, вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*28 жніўня адзначае Дзень нараджэння **айцец Аляксандр Дулінец**.*

***Ксяндза Аляксандра шчыра вітаем!***
***Ад шчырага сэрца Вам дасылаем***
***Словы падзякі, павагі бязмернай***
***За служэнне ў парафіі, адданасць і веру!***

***Няхай Вас адорвае Бог міласэрны***
***Ласкай, апекай, верай без меры!***
***Няхай будуць блізкія Вашы здаровы,***
***Ім мы жадаем ад Бога аховы!***

***Няхай Вам шчаслівая зорачка свеціць,***
***Няхай паважаюць дарослыя, дзеці!***
***Няхай жа здзяйсняюцца мары, жаданні!***
***Мы шчыра складаем свае віншаванні!***

***З вялікай удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Найсвяцейшага Сэрца Езуса, м. Падсвілле Глыбоцкага р-на***

## Віншуем!

*31 жніўня **ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі** будзе адзначаць Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Уладзімір! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды і жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, аптымізму!*

*Дзякуем за ахвярную працу, за чулае сэрца, за ўвагу і цярплівасць да кожнага з нас. Няхай Божая Маці заўсёды апякуецца Вамі, а Пан Бог хай засцерагае Вас ад няшчасцяў і дапамагае ў кожную хвіліну жыцця!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі капліцы святых Пятра і Паўла ў в. Казлоўшчына***

## Правер сябе

**Правільныя адказы на тэст са стар. 9**
**1 – А; 2 – А; 3 – А; ; 4– А; 5 – Б; 6 – Б; 7 – Б; 8 – В**

# Гісторыя парафіі Камень-Губіна




**Дзякуючы ксяндзу Язафату Жыскару (1868 – 1919 гг), які даследаваў гісторыю каталіцкіх парафій на беларускіх землях, а таксама айцу-капуцыну Яну Фібеку, каторы ў сучасны час займаецца вывучэннем гісторыі каталіцкіх парафій у Беларусі, да нас дайшлі некаторыя звесткі пра святыні і парафіі, занядбаныя за гады панавання савецкай улады.**

■ **Наталля Мізярска**, *гісторык*

Парафія Камень-Губіна Лепельскага дэканата раней называлася проста Камень. З цягам часу касцёл у Камені зліквідавалі, засталася толькі невялікая капліца, дзе жылі старыя святары. Саму ж парафію перанеслі ў велічную святыню Губіна, што пачала існаваць з 1833 г. на месцы зачыненага кляштара айцоў-францішканаў.

Вялікі мураваны касцёл у Губіне пад імем святога Антонія быў пабудаваны ў 1714 г. на грошы полацкага стольніка Яна Пакоша. Святыня мела форму крыжа і тры алтары. Самы вялікі алтар – Найсвяцейшай Панны Марыі – быў аздоблены разьбянымі ўпрыгожаннямі. Таксама ўвагу прыцягваў і бакавы алтар Найсвяцейшай Панны Марыі Вострабрамскай. Парафіяне хацелі адчыніць школу для дзяцей непадалёку ад касцёла, але нічога з гэтага не атрымалася.

Першым пробашчам стаў ксёндз Францішак Нарвош, які, нягледзячы на абвінавачванне ва ўдзеле ў паўстанні 1864 г., усё ж атрымаў дазвол далей працягваць працу ў гэтай парафіі. А сама парафія была вельмі вялікая, бо ў яе ўваходзіла яшчэ некалькі раней скасаваных парафій: Чашнікі, Кублічы, Белы Камень. Налічвала яна 1815 вернікаў. Гэта і простыя людзі, і заможныя шляхецкія роды, напрыклад, Рэуты, Корсакі. Іх продкам некалі каралі падаравалі тут землі за нясенне вайсковай службы.

Большасць парафіян была з дробнай шляхты-арандатараў. Асноўная частка каталікоў жыла каля Чашнік, бо там людзі мелі працу і грошы ад папяровай фабрыкі пана Сялявы. Парафія з цягам часу станавілася ўсё меншай, бо многія з'язджалі ў Амерыку ў пошуках лепшай долі.

Сярод святароў, якія працавалі ў парафіі, вядомыя наступныя: кс. Валерыян Нехведаровіч (1868-1869); кс. Людвік Бем (1881-1882); кс. Дзіянізій Сямашка (1883-1892); кс. Станіслаў Цыбулевіч (1896-1897); кс. Міхал Бужыцкі (1898-1899); кс. Юзэф Альшэўскі (1900-1902). На працягу 1902-1919 гг. пробашчам з'яўляўся кс. Фелікс Зарэмба.



Ксёндз Фелікс Зарэмба

У 1907 г. парафія Камень-Губіна належыла да Лепельскага дэканата і налічвала 1770 каталікоў. Сюды ўваходзілі такія мясцовасці, як Камень, Белае, Іванск, Павулле, Суша і Арэхаўна. Ксёндз-пробашч Фелікс Зарэмба пакінуў парафію ў 1918 г. пасля ліхалецця – Кастрычніцкай рэвалюцыі, у хуткім часе памёр ад цяжкай хваробы. Вядома, што яшчэ перад Першай сусветнай вайной у кляштары захоўваліся багаты архіў і бібліятэка, якая засталася ад былога ордэна айцоў-францішканаў.



Так выглядаў касцёл у Губіне

У 1919-1926 гг пробашчам парафіі Камень-Губіна з'яўляўся кс. Юзэф Барадзюля. Гэты святар успамінаў, як прыехаў на першую Імшу напярэдадні свята Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі 7 снежня 1919 г. Каталікоў было ўжо няшмат, яны жылі ў розных вёсках. Засталася яшчэ капліца ў Камені. Цяжка вельмі было несці людзям Божае слова, бо ў гэтыя гады святароў савецкая ўлада пераследавала, вінавацiла ў шпіянажы і антысавецкай дзейнасці.

29 снежня 1926 года ксяндза Язэпа Барадзюлю, пробашча парафій у Бешанковічах, Ушачах і Камені-Губіне, арыштавалі і асудзілі на 25 гадоў турмы. Сваё жыццё ён правёў у савецкіх лагерах: на Салаўках, у Архангельску, Сыктыўкары, Сібіры. У савецкія часы набажэнствы ў парафіі Камень-Губіна былі забароненыя.

З некалі былога велічнага касцёла засталіся толькі вежа і рэшткі муроў. Сёння былая тэрыторыя парафіі Камень-Губіна належыць да каталіцкай парафіі ў Лепелі.





Руіны касцёла ў Губіне

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Вялікую ўдзячнасць мы, вернікі парафіі Божай Міласэрнасці аг. Любань Вілейскага раёна, выказваем нашаму пробашчу **ксяндзу-каноніку Аляксандру Барылу** за яго ахвярную працу!*

*Ніколі ў нашай вёсцы ў каталікоў не было ні парафіі, ні месца для супольнай малітвы. Дзякуючы намаганням нашага паважанага ксяндза сёння мы маем невялічкі домік, прыстасаваны пад капліцу, надзел зямлі, на якім пачалася будоўля новай прыгожай капліцы. У любое надвор'е ў вызначаны час ксёндз Аляксандр прыязджае на святую Імшу (у яго і яго дапаможнага ксяндза-вікарыя Юзафа Сярпейкі – пяць парафій).*

*Дзякуючы ксяндзу Аляксандру католікі пацягнуліся да Бога. Сістэматычна прыходзяць у капліцу на малітву, вучацца слухаць слова Божае, імкнуцца, вызнаўшы свае грахі, змяняцца да лепшага, узрастаць у пабожнасці. Вялікі дзякуй Вам, ксёндз Аляксандр, ад імя хворых, састарэлых людзей, якім Вы ўдзяляеце сакрамант намашчэння! Вы вучыце жыць нас у адзінстве, даверы, згодзе і памятаць пра тых, хто не можа бываць на святой Імшы.*

*З вялікай радасцю ў сваёй невялікай парафіі мы сустракалі фігуру Маці Божай Фацімскай. Кожны мог памаліцца каля яе святога аблічча, папрасіць благаслаўлення, здароўя для сябе і сваіх родных. За тое, што фігура была ў нашай парафіі, мы ўдзячныя ксяндзу Аляксандру.*

*11 жніўня ў нашага ксяндза-дэкана Дзень нараджэння. Місія служыць Богу і людзям – высакародная і адказная. Мы жадаем нашаму любімаму ксяндзу Аляксандру моцнага здароўя, аптымізму, здзяйснення ўсіх яго планаў, задумак, мараў, добразычлівых вернікаў. Мы верым, што ў нашага пробашча хопіць сілы, мэтанакіраванасці, дабрыні і любові, каб ажыццявіць задуманае. Заўсёды ў сваіх малітвах мы будзем памятаць Вас, ксёндз Аляксандр, прасіць у Езуса Хрыста доўгіх гадоў жыцця Вам і Вашым родным!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Божай Міласэрнасці, аг. Любань (Вілейскі раён, Мінская вобласць)***

# “Выратуем святыню разам!”

## На рэстаўрацыю касцёла Перамянення Пана ў Германавічах патрабуюцца сродкі



**Высока ў неба ўзнімаецца касцёл, пабудаваны на ўзвышшы ў цэнтры Германавіч. На працягу стагоддзяў ён уражвае сваёй прыгажосцю і велічнасцю.**

Амаль кожны дзень яго наведваюць людзі, каб звярнуцца да Бога ў сваёй малітве, падзякаваць за апеку, падтрымку на жыццёвым шляху, папрасіць пра заступніцтва, здароўе, сямейны дабрабыт, мір і спакой.

Сумнай старонкай у яго гісторыі з'яўляецца час з 1948 па 1988 гады, калі касцёл быў зачынены савецкімі ўладамі.

Сёння, каб касцёл Перамянення Пана і надалей працягваў радаваць сваёй прыгажосцю, неабходныя сродкі на яго рэстаўрацыю. Усе ахвотныя могуць унесці свой уклад у важную справу аднаўлення гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь. Гэта пачэсная і патрэбная місія, якая патрабуе агульных намаганняў дзяржавы, насельніцтва, духавенства.

Пералічыць сродкі можна на разліковы рахунак № BY96BAPB30154820100120000000 у філіяле ААТ “Белаграпрамбанк”, Віцебскае абласное ўпраўленне, БИК BAPBBY22424

Больш падрабязную інфармацыю можна даведацца, патэлефанаваўшы **ксяндзу Яну Пугачову: (8-029) 290-81-45.**

*klich.by*

# Разважаем над Божым словам

**Развужанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**20 жніўня 2017 г.**

***Мц 15, 21-28***

Езус выконвае сваю місію. Ён – Месія, прыйшоў выратаваць абраны народ – ізраільцянаў. З гэтага народа выбраў і стварыў супольнасць апосталаў, якая стала падмуркам Касцёла. І гэты Касцёл Езус пасылае, каб ішоў абвяшчаць Евангелле ўсяму свету. Тое, што адбываецца ў сённяшнім Евангеллі, – гэта знак, што дар выбрання да Божага ўсынаўлення з'яўляецца і Божым запрашэннем таксама. Трэба толькі, каб чалавек цалкам паверыў у Божую дабрыню і ўвесь аддаўся ў рукі Хрыста. Язычніца з сённяшняга Евангелля вызнала веру ў боскасць Езуса і Яго місію. Напэўна, яна не да канца разумела сэнс гэтых слоў, але пайшла за натхненнем Святога Духа і папрасіла Езуса аб ратунку. Езус тлумачыць ёй, што ў Божым плане свая, Божая чарга спраў. Яна не спрачаецца з Ім, але з даверам просіць, каб і пра яе Бог не забыўся, няхай і ў самым канцы. Такую веру Езус хваліць перад ізраільцянамі. Вера – гэта адданне сябе Божым планам і адначасова пошук Яго волі і вялікі давер да Яго.

*– Якая мая вера?*

*– Ці не ўпэўнены я празмерна ў сваім абранні і сваёй уласнай святасці?*

*– Ці цікаўлюся я Божай воляй?*

*– Ці не крыўджуся, што ў Бога часам свае планы?*

*– Можа, хачу, каб усё было так, як я жадаю, тады, калі хачу, бо я – “божы чалавек”?*

*– Ці імкнуся зразумець Божы план адносна сябе і да яго прыстасавацца?*

*– Ці згодны я з тым пакліканнем, якое абраў для мяне Бог на зямлі?*

*– Можа, гэта не Яго воля, але Ён дапускае гэта, бо я не маю настойлівасці і рашучасці, каб штосьці змяніць?*

*– Што я раблю, каб праверыць, ці добра разумею і выконваю Божую волю?*

*– Ці карыстаюся дапамогай ксяндза ў спавядальніцы, ці размаўляю з духоўным настаўнікам пра пытанні, якія маю?*

*– А можа, лёгка крыўджуся на Касцёл, на святароў?*

*– Ці не хачу, каб Бог быў мне паслухмяны, бо, як я лічу, усё добра ведаю і хачу добра (маё добра)?*

**27 жніўня 2017 г.**

***Мц 16, 13-20***

Чалавек не можа сам праз сябе пазнаць Божага вучэння. Для гэтага патрэбна Божая ласка – мілата. Такім дарам надзелены святы Пётр з сённяшняга Евангелля, які вызнаў веру ў Езуса. Езус выкарыстоўвае гэты выпадак, каб расказаць пра годнасць святога Пятра і ўсяго святога Касцёла. А таксама каб растлумачыць, што праз вучэнне Касцёла, які ўзначальвае Пётр і яго наступнікі, мы будзем спазнаваць праўду, аб'яўленую Богам. Касцёл будзе сцерагчы сапраўднасць вучэння Хрыста і тлумачыць яго. І будзе выконваць гэта з аўтарытэтам, дадзеным яму Езусам Хрыстом.

*– Кім для мяне з'яўляецца Езус Хрыстус?*

*– Ці згоднае маё разуменне Асобы і вучэння Езуса Хрыста з разуменнем Касцёла і з тым, што Ён Сам пра Сябе перадаў?*

*– Ці прызнаю аўтарытэт Касцёла ў справах веры?*

*– Ці памятаю, што Езус сказаў пра Пятра?*

*– Ці веру, што ў Касцёле дзейнічае Святы Дух?*

*– Як прымаю вучэнні фальшывых настаўнікаў, што не атрымалі пацвярджэнне ад Касцёла?*

*– А можа, выбіраю пад свой густ і сённяшнюю патрэбу то вучэнне Касцёла, то “праўды” фальшывых настаўнікаў?*

*– Можа, лічу сябе аўтарытэтам большым за Касцёл і сам вырашаю, што праўда, а што не?*

**3 верасня 2017 г.**

***Мц 16, 21-27***

Езус абвяшчае Сваім вучням, што Ён – Месія. Бог Айцец захацеў, каб Місія Езуса была выканана паводле волі Айца, а не так, як спадзяваліся ізраільцяне. Езус пройдзе праз цярпенне і смерць, каб уваскрэснуць. Гэтыя словы Езуса выклікалі супраціў у святога Пятра. На жаль, чалавек не заўсёды прымае Божыя намеры з адкрытым сэрцам. Езус адназначна гаворыць Пятру, каб той не праціўіўся Божай волі. Трэба, каб вучні Езуса думалі па-Божаму, а не толькі з чалавечай пазіцыі. Дарога за Езусам – гэта заўсёдная гатоўнасць вучыцца ў Яго, умець адмовіцца ад сваіх недасканалых думак і рэцэптаў свайго шчасця і шчасця ўсяго свету. Вучань Езуса павінен быць гатовы “страціць” сваё жыццё, выконваючы Божую волю, як гэта зрабіў Хрыстус – Настаўнік. Бо Хрыстус – Пераможца – прыйдзе ў апошні дзень і той, хто паслухмяны Яму, будзе на баку Пераможцы.

*– Ці гатовы я пачуць і прыняць Божую волю?*

*– Ці дазваляю я Езусу гаварыць мне такое, на што я і не спадзяваўся?*

*– Ці не думаю, што ўсё ведаю і Бог не здольны здзівіць мяне сваімі планамі?*

*– Ці задумваюся, калі штосьці адбываецца не так, як я гэта сабе ўяўляў?*

*– Ці спрабую знайсці, зразумець і выканаць Божую волю?*

*– Ці прашу Бога дапамагчы зразумець незразумелае ў маім жыцці?*

*– Ці пытаюся ў Езуса: “Чаму так? Як гэта павінна быць? І што Ён мае на ўвазе?”*

*– Ці слухаю вучэнне Касцёла?*

*– Ці маю духоўнага настаўніка?*

*– Ці вучуся разам з ім распазнаваць Божую волю ў сваім жыцці?*

*– Ці, ідучы праз жыццё за Езусам, я разумею, што Ён лепш ведае, што для мяне добра і якой дарогай трэба ісці?*

*– Ці памятаю, што Ён – Пераможца, Ён – Жыццё і без Яго няма жыцця?*

*– Ці выпадкова я не хачу пабудаваць шчаслівае жыццё па-свойму, без Яго, не зважаючы на Яго волю, ды яшчэ, каб Ён усё гэта паблаславіў?*

**10 верасня 2017 г.**

***Мц 18, 15-20***

У гэтым тэксце Езус вучыць нас пра супольнасць Касцёла. Ён стварыў яе для таго, каб мы знаходзілі ў ёй Яго прысутнасць. Касцёл мае правы і абавязак з любоўю клапаціцца пра вечнае збаўленне вернікаў. Пры патрэбе супольнасць павінна з любоўю і пашанай да верніка перасцерагаць яго, каб не збочыў ён з Божай дарогі. Аўтарытэт Касцёла, які даў яму Езус, дазваляе вучыць вернікаў распазнаваць сапраўдную Божую дарогу. Дзеянні Касцёла, які супрацоўнічае са Святым Духам, маюць наступствы ў небе. Напрыклад, адпусканне грахоў у спавядальніцы. Вялікай каштоўнасцю таксама з'яўляецца малітва Касцёла, бо ў ёй удзельнічае Езус.

*– Ці маю я здаровае і добрае разуменне, чым з'яўляецца супольнасць Касцёла?*

*– Ці не думаю, што Касцёл – гэта свецкая супольнасць, якая жыве па правілах гэтага свету?*

*– Ці, наадварот, думаю, што гэта святая супольнасць і ніхто з яе чальцоў не памыляецца і ўсе безгрэшныя?*

*– Ці ўмею размежаваць чалавечы грэшны фактар і Божае дзеянне ў супольнасці Касцёла?*

*– Ці клапачуся пра духоўнае дабро маіх братоў?*

*– Ці з любоўю гэта раблю?*

*– Ці не асуджаю сваіх братоў?*

*– Ці не раблю горшымі сваімі паводзінамі іншых?*

*– Ці разумею, што сваімі паводзінамі сведчу ў свеце пра супольнасць Касцёла?*

*– Ці прымаю аўтарытэт Касцёла ў справах веры і маральнасці?*

*– Ці іду з даверам да Касцёла, каб спарадкаваць свае справы з небам?*

*– Ці не думаю з празмернай ганарлівасцю, што Касцёл мне непатрэбны?*

*– Ці часам, сам не разумеючы Божага вучэння, бяруся фальшыва і супраць пазіцыі Касцёла вучыць людзей пра Бога?*

*– Ці не вельмі лёгка даваюся розным сектантам і фальшывым прарокам?*

*– Ці цаню малітву супольнасці?*

*– Ці ўдзельнічаю рэгулярна ў Святой Літургіі?*

*– Я будую ці руйную супольнасць Касцёла?*

*– Ці малюся за Касцёл?*

*– Як і што кажу пра Касцёл і пра людзей Касцёла?*

*– Хто я ў супольнасці Касцёла: назіральнік ці актыўны і жывы чалец гэтага Касцёла?*

*Развужанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

## пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.

### Адпраўся ў падарожжа з "Пазнавайкай"

Адпраўся ў падарожжа на паветраным шары і ты даведаешся, што табе хоча сказаць «Пазнавайка».




Запішы, што ў цябе атрымалася:

______________________________________

______________________________________

### Прачытай і адкажы на пытанні

Прачытай гісторыю, якая здарылася з дзяўчынкамі і адкажы на пытанні.

Гэта гісторыя здарылася восенню. Дзве сястрычкі Лідачка і Ганначка збіраліся пагуляць на вуліцу. Мама і тата вельмі папрасілі дзяўчынак, каб яны апранулі шапачкі, бо было холадна. Лідачка апранулася цяплей, а Ганначка цвёрда адмовілася ад шапкі.

На наступны дзень Ганначка захварэла. У яе паднялася тэмпература. Бацькі выклікалі ўрача.

Толькі тады дзяўчынка падумала, што так здарылася, бо яна не паслухала сваіх бацькоў. Ганначка зразумела, што вельмі важна заўсёды быць паслухмяным!



1. Хто з дзяўчынак паслухаўся бацькоў?
2. Чаму нас можа навучыць гэтая гісторыя?

### Адкажы правільна

Хто з гэтых людзей паводле Бібліі не паслухаў Бога?



1.Адам і Ева



2. Ной



3. Ян Хрысціцель

*Запішы неабходную лічбу*

*Што зрабіў Бог за чалавечую непаслухмянасць?* __________________________

______________________________________

### Прачытай разам з бацькамі

У Біблii прачытай разам з бацькамі ў пасланні да Каласянаў словы апостала Паўла (раздзел 3, верш 20) пра паслухмянасць. Ніжэй запішы тое, чаго не хапае.




### Знайдзі адрозненні

Матуля папрасіла дзяцей дапамагчы выцерці посуд. На малюнку ты бачыш дзяцей, якія паслухалі сваю маці і старанна пачалі дапамагаць.Твая задача знайсці тут усе адрозненні.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# “Пакіньце свае інтэнцыі тут”: 4 і 5 жніўня ў Росіцы прайшлі ўрачыстасці



**Пакланіцца росіцкім пакутнікам прыбылі тры пешыя пілігрымкі: з Друі (96 чалавек, 3 дні, 100 км), Полацка (53 асобы, 4 дні, 110 км), Барысава (40 пілігрымаў, 8 дзён, 258 км), на матацыклах з Браслава (22 чалавекі), на роварах з Барысава (14 асоб, 4 дні, 310 км).**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Урачыстасці распачаліся 4 жніўня святой Імшой з удзелам усіх пілігрымаў, якую ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. У Літургіі таксама прыняў удзел Апостальскі візітатар Грэка-Каталіцкай Царквы архімандрыт Сяргей Гаек.

“Памерлыя не знікаюць, а тым больш аддаўшы жыццё як сведчанне сваёй веры, яны становяцца нашымі заступнікамі. Мы збіраемся сёння ў гэтай святыні, каб чарговы раз падзякаваць Богу за тых людзей, якія і цяпер для нас служаць прыкладам мужнасці ў вызнанні нашай веры”, – сказаў ардынарый.

Слова да вернікаў прамовіў кіраўнік барысаўскай пешай пілігрымкі а. Вадзім Мізер MIC. Штогод пілігрымы прыходзяць у санктуарый з рознымі сваімі інтэнцыямі, але большасць з іх і “забіраюць” свае просьбы дадому. Святар заклікаў пакінуць інтэнцыю тут і выехаць з пустой галавой. Бог для кожнага падрыхтаваў нешта новае, не трэба засяроджвацца на старых думках, а лепш крочыць наперад.

Адмыслова да ўрачыстасцяў у касцёле падрыхтавалі выставу фатографа Элана Лыскова “Сведчанне веры ў Хрыста”. У святыні размешчаны фотаздымкі маладых людзей з крыжам разам з іх асабістымі сведчаннямі, думкамі і разважаннямі.

З нагоды юбілею – 500-годдзя Біблії Скарыны – з дакладам выступіў кс. Сяргей Сурыновіч.

Геаграфія мясцін, адкуль прыбываюць пілігрымы ў Росіцу, штогод пашыраецца. У чарговы раз кусташ санктуарыя а. Чэслаў Курэчка MIC вітаў пілігрымаў з вялікіх гарадоў і маленькіх вёсак нашай краіны: з Мінска, Віцебска, Барысава, Полацка, Навапалацка, Жодзіна, Глыбокага, Оршы, Верхнядзвінска, Мёраў, Браслава, Друі, Бігосава, Асвеі, Дзісны і інш.

Асаблівым “пунктам” святкавання для вернікаў з’яўляецца св. Імша апоўначы і працэсія на Пляц Мучаніцтва, дзе адбываецца малітва і адарацыя крыжа. Гэтую Эўхарыстую разам з прысутнымі святарамі і віцебскім ардынарыем канцэлебраваў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB.

“Мы сабраліся, каб прасіць Пана для нас, сучаснікаў, моцнай веры, сапраўднай адвагі жыць з Хрыстом, жыць паводле Яго Евангелля. Бласлаўлёныя мучанікі дасканалым спосабам выканалі заклік Хрыста. Жыць з Ім і жыць так, як вучыць Ён, – гэта заданне для кожнага з нас, каб быць годнымі нашчадкамі іх плённага і бласлаўлёнага жыцця”, – з гэтымі думкамі распачаў малітву іерарх.

Пасля Імшы святары, законныя сёстры разам з вернікамі рушылі працэсіяй на месца мучаніцтва і смерці росіцкіх жыхароў разам з бласлаўлёнымі айцамі Юрыем і Антоніем.

Пасля малітвы слова да прысутных прамовіў біскуп Алег: “Не забараніў Бог ужываць гэты свет, радавацца, весяліцца, пазнаваць, але папярэдзіў, што чалавек не можа для сябе сам быць нормай, не можа чалавек, не гледзячы на Божы закон, будаваць сваё жыццё, бо гэта заканчваецца смерцю, забойствам. Гэтае месца, на якім чарговы раз стаім, – моцнае таму пацвярджэнне. Бо чалавек, які не зважаў на Бога, на Яго закон, чалавек, які лічыў сам сябе законам, нішчыў іншага чалавека. На жаль, так ёсць і сёння, а паратункам у такой сітуацыі з’яўляецца толькі вера, якая вяртае нас да Божага сыноўства. Менавіта таму, там дзе панавала смерць, людзі ставяць крыж. Гэта знак надзеі і перамогі над грахом і смерцю, знак, пад якім чалавек вяртаецца да свайго Айца.

Няхай і наша вера, якая прывяла кожнага на гэтае месца, дапаможа мець Бога як найвышэйшы аўтарытэт у сваім жыцці! Няхай дапаможа памятаць, што Яго права ёсць для нас галоўным. Няхай дапаможа нам любіць бліжняга, як самога сябе, быць здольным прысвяціць сваё жыццё іншаму чалавеку, як учыніў гэта Езус. І тады гэтая вера дапаможа нам не баяцца смерці, быць пераможцамі ў змаганні дабра са злом у сучасным свеце, а перадусім стацца пераможцамі ў змаганні з вечнай смерцю, бо ў ёй пераmог Езус, і перамога кожны, хто да Яго належыць, так як да яго належаць тыя, хто быў закатаваны на гэтым месцы. Просім праз іх заступніцтва аб моцнай веры для нас, каб яна ўжо зараз і тут чыніла нас пераможцамі, чыніла Божымі дзецьмі, якія ўжо цяпер належаць да Божага Валадарства”, – заклікаў іерарх.

Наступным “пунктам” святкавання стаў Крыжовы шлях у інтэнцыі нашай Бацькаўшчыны.

Усю ноч няспынна трывала малітва. Вернікі прынялі ўдзел у многіх набажэнствах, сярод якіх былі нешпары за памерлых, Акафіст да росіцкіх мучанікаў, малітва праслаўлення, Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці НПМ, Літургія ўсходняга абраду, Святы Ружанец.

Урачыстасць завяршылася, а малітва ў Росіцы ў інтэнцыях, якія пакінулі тут пілігрымы, будзе працягвацца.






Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб’яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 5283

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3000 экз. Аб’ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 23.08.2017 г. у 11.34

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь